Пятрусь Макаль

# Твар і душа

Кніга паэзіі

Мінск
«Мастацкая літаратура»
1995

# *Таемны покліч пекнаты*

* * *

Як утаймуеш горкае ўздыханне
У хвілю непазбыўнае журбы?
Ад звадак,
                ад жабрацкае дзяльбы
Куды ўцячы,
                як не ў цябе, каханне!

Ты —
        двух суладных сэрцаў калыханне,
Гадзіна першабытнае сяўбы,
З крутой гары салодкі бег арбы,
Калі шчымліва стойваеш дыханне...

Яднанню шчырых душ і губ паверце,
У пацалунку —
позва праваты,
Для будучыні адрас на канверце...

Каханне —
вечны покліч пекнаты,
Мой паратунак і маё бяссмерце,
Есць толькі ты, адно на свеце ты!



Выратавальнай кропляю скрышы
Глухія бастыёны адчужэння,
Каханне — таямніца прыцяжэння,
Калі душа не можа без душы!

Падоўжым мы свой век і ў шалашы,
Не ведаючы стомы без жэньшэня,
Калі адчуем боскі міг збліжэння
З табой, як дзве істоты-спарышы.

Хіба не стаў бы ўжо здабычай прорвы
Я без цябе, як без нябёсаў птах?
Звярніце думны позірк свой да зор вы:

У мігатлівым млечным калыханні
Трымаецца сусвет на трох кітах —
Людской Надзеі, Веры і Каханні!

* * *

Паводле боскай мудрасці жыві,
Хай нават на зямлі нясцерпна горка,
Вучыся ў неба,
дзе да зоркі зорка
Прыцягваецца сілаю любві!

Вяршыняю раптоўна стане горка,
Жанчыну толькі ў сполку пазаві,
І ўспыхне гэтак полымя ў крыві,
Што ўночы днець пачне
з твайго падворка.

Калі ўжо зорцы накануе лёс
Згубіць у чорнай бездані каханне,
Яна імгненнай знічкаю з нябёс

З такою бліскавічнасцю ўпадзе,
Што вочы нам усім аслепіць ззянне,
Не даючы схавацца анідзе!

* * *

З вясельных уцякаючы аблаў,
У свой пакой мы стрымгалоў ляцелі.
Як ветразі, твае шаўкі шасцелі,
Хадзілі грудзі, твар агнём палаў.

Святло кахання апявай і слаў!
Сузор'і, што ў бясконцасці трымцелі,
Спускаліся да шлюбнае пасцелі,
Якую нам з табою Бог паслаў.

І сёмае мы абжывалі неба,
У храм ператвараючы жытло,
Калі палёт душы — адна патрэба!

Я зразумеў, што нельга жыць бяскрыла.
Бог аддзяліў ад цемрадзі святло,
А ты і ночы ў дні ператварыла!

* * *

Нас пацалунак вызваліў з акоў,
З якіх мы вырываліся з адчаем:
Агонь і лёд пяшчотай прыручаем,
Каб шырылася кола сваякоў!

Галёкае радня з усіх куткоў:
Ля алтара, на жніве і за чаем
Сябе мы крэўнай повяззю злучаем —
І менее на свеце чужакоў!

Нявесткі і зяці, сваты і сваці,
Як Усявышнім спрадзеная ніць,
З якой саткуцца лепшыя багацці...

Каханне — чарадзейнае мастацтва,
Якое людзям не дае зманіць, —
Свет уратуе шчырых душ сваяцтва!



Растала скроняў снегавая бель,
Мая душа раптоўна затрымцела,
Калі са мной ты птушкаю ўляцела
У ліфт, як у касмічны карабель.

П'яніла прага вышыні, як хмель,
Твая спаднічка ветразем шасцела,
І мне хутчэй узнесціся карцела
У мройны рай — за трыдзевяць зямель.

Як д'яблік спакушальнай пекнаты.
Мяне, у плацці джынсавым зладзейка,
З зямнога прыцягнення ўкрала ты...

І я, нарэшце, зведаў зорны лёс.
Ах, як табе аддзячыць, чарадзейка,
За міг узлёту з долу да нябёс!

* * *

Не маючы фамільнага дабра,
Была ты беспасажніцай усё-ткі.
Выносілі прысуд сарокі-цёткі:
Жабрачка — ні кала і ні двара!

Адно надзея, як надзел святла,
Скіроўваючы промень свой дрыготкі,
З бяздоннай цемры вызваліла ўсходкі, —
І да мяне ты голаю прыйшла!

Мне асляпіў чароўным ззяннем вочы,
Як поўня ўночы, позірк твой дзявочы,
Акрэсліўшы майго жыцця абсяг...

Сваім нашчадкам, як багацця мерку,
Перададзім, не тоячы ў куфэрку,
Тваю красу — які ж яшчэ пасаг!



Як спакушаў п'янлівы мёд маліны,
Які шукаў у зарасніку я!
Ты толькі потым, ягадка мая,
Дала адчуць і горыч журавіны.

Прыгубім нецярпліва келіх вінны —
І ўжо штарміць струменьчык ручая,
І галава свая ўжо не свая,
І ловім мы вясёлкі хвост павінны.

Спытай у апантанай маладосці,
Як сцішыцца, калі не прашумець,
Патрапіўшы да хваль буянства ў госці?

Урок любові, хто яго аспрэчыць?
Патрэбна век пражыць, каб зразумець,
Што слодыч старыць, а гаркота лечыць.



Пра мой узрост
злασліва мовіў хтосьці,
У скроні —
срэбра, д'ябал — у рабро...
А ці не зблытаў ты са злом дабро
Сваім выслоўем мудрым, ягамосьці?

Ці ж не анёльскі твар у прыгажосці,
Што азарае позірк і нутро?
І — да паперы цягнецца пяро,
І просіцца душа да Бога ў госці!

Ускідваю зямлю сабе на крылы,
І тое, што таілася на дне,
Ужо сягае аж за небасхілы.

Каб моц мая ў самоце не азябла,
Прыйшла выратаваннем да мяне
Ты, як анёл, які адужаў д'ябла!

* * *

І ў горы ты са мной не бедавала,
Мы, пастаяльцы ў розных гарадах,
Адзін над галавою мелі дах,
Які каханне наша будавала.

То ў патаемных сховах сенавала,
То ў дачным храме, то ў лясных шатрах
Мы з боскаю лагодаю ў ладах
Вянчаліся з табой без рытуала.

Сплячэнне рук маіх — табе падушка,
Мурог пад бокам — царская пасцель,
Нам велічальны гімн спявала птушка!

Без дома, без гнязда і без падвор'я
Жывём, як двуадзіная арцэль,
Зямныя дзеці мройнага сузор'я.



З журботаю адкрыем нечакана:
Пад ношаю гадоў няўмольных мы
Старэем, як і дрэвы, і дамы,
Якім ужо на знос наканавана.

Ды апякае раптам палымяна
Пяшчотай нарачонай зрок нямы,
І ты ўжо, высякаючы грамы,
Падскокваеш, нібыта конь з аркана...

Якое чарадзейнае штукарства:
З гарэзнай зухаватасцю задзір
Ты, як падданы казачнага царства,

Нырнуць гатовы з галавой у вір...
Каханне — ад нямогласці лякарства,
Нястомнай маладосці элексір!

* * *

Калі адзенне з плеч тваіх злятала,
П'янлівай пенай закіпаў прыбой. —
Спатканне прадчуваючы з табой,
Усхвалявана мора трапятала.

Нырнула ты — і рыбінаю стала,
А я, стыхіі абвясціўшы бой,
Захоплены шчымліваю гульбой,
Схапіў за грыву люты вал трывала.

Сваю багіню ўласнаю рукой
Я вызвалю, спаборнік і пакутнік,
З абдымкаў белай бездані марской.

І вабіць, і палохае бруя, —
Працягваецца любасны трохкутнік:
Жанчына, мора і раўнівец — я.

* * *

Хвалю тваю краіну, адзінота,
Дзе ні граніц, ні вартавых няма.
Дзе, прагнучы сугучча, нездарма
Звініць струны асаматнелай нота.

І ўсё-ткі адзінота — не згінота,
Калі ў ёй летуценных дум гурма,
Якімі валадарыш ты сама,
Любові неагораная цнота.

З самім сабой вяду маўклівы бой:
З блакіту —
лівень, з цішыні —
грымота,
Ралля,
што трызніць блізкаю сяўбой...

Хай у душы нясцерпная ламота,
Ці ж я адзін, калі мая самота
Засеяна, заселена табой?

* * *

Наш чарадзейны самалёт-кілім,
Які ўзняло каханне ўвысь спачатку,
Ужо зрабіў дрыготкую пасадку,
Усё яшчэ лунаючы ў былым...

З якой скарбонкі заплачу калым,
Каб не парушыць боскага парадку,
За ўзлётны смак нябачанага ўзятку?
Сваім жыццём — вялікім і малым!

Калі мяне люляла вышыня,
Куды ўздымала ты мяне штодня,
Не боязна цяпер ступаць па доле...

Паклон табе са мною б'юць жыты,
Дзе, ідучы жняёй стамлёнай, ты
Нясеш сузор'е зерняў у падоле!

* * *

Не трэба так зласліва жмурыць бровы,
Што не адной табе належу я.
Так, цалавала вусны мне бруя
Крыніцы дрогкай пад шатром дубровы.

Мяне, калі трашчаў мароз сўровы,
Віхура, абдымала, як свая,
І лагаднеў я сэрцам удвая,
І твар мой палымнеў, як пурпуровы.

Калі сумнення сверб душу апаліць,
Ты д'яблаў у дарадцы не заві,
І правату тваю Усявышні ўхваліць...

Ты розумам прасветлена ўяві,
Што рэўнасць не змяя, якая джаліць,
А хрусткі хворает у агонь любві!

* * *

Што даражэй ад боскага дарунка,
Які твой думны дух бярэ ў палёт?
Зіма, і лета, і агонь, і лёд
Мільгаюць на працягу пацалунка!

Ты назаўжды мне — як крыло ратунка,
Як птаху неба і як пчолам мёд;
Усю душу працяўшы навылёт,
Пяе арганам трапяткая струнка!

Цалуй мяне мацней —
на зайздрасць зорам!
Не спудзяць нас зласлівых слоў грамы:
З наступным лучыць провад нас прамы...

Наследнікам у спадчыну падорым
Скарб чарадзейны, за які не сорам, —
Кахання храм, што пакідаем мы!

* * *

Святло вясновай квецені чаромух
Успыхвала і гаснула не раз,
Крадком фатаграфіруючы нас,
Калі блукалі мы да пеўняў сёмых.

Глядзеў нясмела, хоць і быў не промах,
Я на цябе, як на святы абраз,
Баяўся рук уласных, як абраз,
Што заміралі ў чарах незнаёмых.

Калі былі твае так блізка вусны,
Зусім не разумеючы сябе,
Я лагаднеў, нібыта ліст капусны...

Ты ж — недасяжны колас на гярбе!
А я няўжо не больш, як зух распусны,
Нябёсамі абыдзены ў дзяльбе?



Не толькі ўцеху, а і страх прыносіць,
Нябачна падрастаючы штодня,
Каханне, як сляпое каццяня,
Што сумным піскам абароны просіць.

Калі бяда гвалтоўная не скосіць,
Расток, які люляе цішыня
І зваблівa гукае вышыня,
Магутнай кронай будзе пладаносіць.

Мы станем поруч, як заслон прынукам,
Любві калыску ласкаю атулім, —
І згубная віхура праміне!

Як у наступным пасяліцца ўнукам,
Якіх галубіць заўтрашнім матулям,
Залежыць ад цябе і ад мяне!



З руплівай задуменнасцю на твары,
Нарэшце, зразумеўшы, што любіў
І што недаравальна так згубіў,
Шукаю, як аслеплы акуляры.

Спрабуючы ад воч адвесці хмары,
Здаецца, я ў знямогласці забыў,
Чым для мяне ружовы колер быў —
Дарунак шчодры жыццядайнай мары.

Твой дотык праз адлегласці вяртае
Чароўную пару, калі світае
Мой зрок, як небасхіл пасля дажджу.

Бяру, адчуўшы з бліскавіцай повязь,
Я з рук тваіх вясёлкі слуцкі пояс,
Якім зямлі і небу дагаджу!



Бывай, каханне! Ты было і знікла,
Раптоўна стала старыцай рака,
Дзе не закінеш нават паплаўка, —
Што віравала, стоена панікла.

І плакаць нельга, і маўчаць нязвыкла.
Твая душа — самота астраўка,
І не хапае суднага рыўка,
Каб ласка Богу ў твой сезам пранікла.

Няўмольным лёсам пакараны строга,
Ты дабрыдзеш да роднага парога.
Пабелены гадамі пілігрым...

Пачуеш хваль нябачных калыханне,
Што заплюскоча ў рэчышчы старым,
Бывай, каханне! Добры дзень, каханне!



Стомлена спасцігаем
Мудрасць жыцця дарагую:
Навыперадкі сігаем
З крамы адной у другую!..
Паразумецца не можам
Мы, родзічы,
Як чужынцы.
Гыркаем тонам варожым,
Як нашы браты ў звярынцы.
Хоць мы і выйшлі з клеткі,
Што збудавалі самі,
Ды страх апаноўвае гэткі,
Што хочацца ўзвыць часамі!
Штосьці ў спіну суседу,
З якім, нібы ў рай еду,
Хочацца мовіць з ласкаю,
А слова сталёвае ляскае...
З небам злучыцца прагнеш,
Каб вера ў зямлю не аслабла,
Руку да анёла працягнеш,
А дакранешся да д'ябла!
Калі ўжо згарыш, нарэшце,
Злосці ўзрыўное паліва?..
Хоць жменькай лагоды суцешце,
Дайце пяшчоты хоць каліва!

## *Дарога да храма*

Пасля нясцерпнага маўчання
Зноў тэлефон загаварыў.
Усё ж было, апроч вянчання, —
Уваскрасай, былы парыў!
На зайздрасць прывідным суседзям,
На спеўны покліч званара
З табой мы едзем, едзем, едзем
Да святара, да алтара!
Любоў, як боскую ікону,
Я не аддам, я не прадам,
Нікому на зямлі, нікому!..
Куды ж падацца, як не ў храм?
Адчуў я, нас з табою звязваў
Не толькі тэлефонны дрот,
Нас да кахання абавязваў
Душы акрыленай палёт!
Нас кліча райскіх дрэў суквецце,
Вяртаемся ў Эдэм святы, —
Нібы адны на цэлым свеце
Адам і Ева —
Я і ты...
Якое шчасце прычасціцца
Да багадайнага пітва,
Хоць мы забылі, як хрысціцца,
Хоць кругам ходзіць галава.
А тапаліны пух прыгожа
Трымціць, як вэлюму святло...
Усё ж было, было, а можа,
Зусім нічога не было?

* * *

Куды ты нясешся, падвода,
Крамсаючы коламі брук?
Вазніца — якая прыгода! —
Ляйчыны ўжо выпусціў з рук.

Ад груку павозкі дрыжыце,
Вёскі і гарады.
Які славянін, скажыце,
Не любіць шалёнай язды?

Калёсы бяруць накірунак
У змрок, у нябачаны змрок...
Ах, лейцы б, як паратунак,
Схапіць ад бяздоння за крок!

Адкуль ты, падвода, адкуль ты
Ляціш,
Узрываючы ціш,
Па волі каманднага пульту?
Ад культу
Да культу
Ляціш.

## *Песімістычны верш*

Знядужаны ўедлівым побытам,
Свечку надзеі тушу,
Сваім ратавальнікам — робатам
За сілу аддаўшы душу.
Д'яблавы шэпты слухаем
Аб тым, што над прорвай вісім...
Толькі рукамі рухаем,
А не нутром усім.
Чуеце, бухаюць молаты,
Якім пакараецца сталь.
Трызнім, што мы ўжо валаты,
Чараўнікі амаль!
Чаму ж мы пачуліся кволымі,
Даверыўшыся рулю:
Ужо не нагамі, а коламі
Кратаем дрогка зямлю.
Яна, вышываная ружамі,
Як покліч красы, паўстае.
Адкуль жа мы будзем дужымі
Без дотыку да яе?
Маторны разбег палюбілі мы,
Сказаўшы хадзе «далоў!».
За хуткімі аўтамабілямі
Гонімся стрымгалоў.
У гонцы свой дух атавырыўшы,
Гарт ліхача пакажы!
А можа, на тормаз, таварышы,
Націснуць бы на віражы!
Наперадзе — кладка пантонная:
У рай дабяруся ці не?
Долі дарога бетонная
Сцелецца пад мяне.

# *Аптымістычны верш*

Дорыць світанак сунічны
Сонца ў маім акне:
Промень аптымістычны
Губы казыча мне!
Людзям і ў век пячорны
Добра вядома было,
Што цень нават самы чорны
Заўсёды змяняе святло.
Кратаю позіркам зорку,
Дыхаючы глыбей,
Чырыкае мне з падворку
Крылаты мой брат верабей.
Падданы зямлі і неба,
Знаю, пакуль жыву:
Не трэба, не трэба, не трэба
Хіліць у журбе галаву!
Будзь паслухмяным, пяро, мне:
Я папараць-кветку знайду!
Па вастрыі промня
Над прорвай да сонца іду.
Хісткія робім крокі,
Мы ўсё ж пачынаем уздым.
Патопнае згубы прарокі
Знікнуць, як прывідны дым.
Як дзеці, упартымі будзем, —
І ўдача ад нас не ўцячэ.
Згубленае набудзем,
Што маем, памножым яшчэ!
Тады, калі кліч недаверкаў
Я слухаць не захацеў,
Крумкач, што бяду мне накаркаў,
Спалохана адляцеў.



Калі матуля ў маю калыску
аднойчы пяшчотна гукнула «Пятрусь», —
гушкалася рэхам
здалёку і зблізку,
уторылася:
— Беларусь!..
— Беларусь!..
І ўжо не забудзецца аніколі,
як Бацькаўшчына
калыханкай гучыць,
як пачынаў я ў матчынай школе
родную мову сваю вучыць...

Калі я манную кашу нішчыў,
хоць і была яна толькі з агню,
лыжкаю я на гліняным днішчы
літары крэмзаў упершыню
Па кожнаму гуку і складу
■ маленства
спрабую твары і душы адкрыць,
збіраю айчынныя скарбы пісьменства,
вучуся з Айчынаю гаварыць...
Пад жаўруковым дрыготным цугам
рухамі хлапчукоўскай рукі
выводзіў,
хістаючыся за плугам,
няроўныя
мовы хлебнай радкі.
Усё, што ў слове матчыным люба,
я ў наваколлі зямным убіраў:
цвёрдасць —
ад непахіснага дуба,
шаўковую мяккасць —
ад кветак і траў...
Нашто выхваляцца, не ўсё я ўмею,
ды шматгалоснасці цешуся я,
без перакладчыка разумею
куванне зязюлі і трэль салаўя.
І толькі ледзьве ў душы ўтрымаю
успышку болю, якой гару,
калі на вуліцы або ў трамваі
па-беларуску загавару...
Мяне прымаюць, як з дзіваў дзіва,
суседзі позіркамі ў штыкі, —
чым прад табою,
мая Радзіма,
я вінаваты,
што я такі?
Не кланяюся айчынным буржуям,

люблю я свой дом і сваю зямлю,
мяне разумеюць, калі кажу ім
па-беларуску сваё «люблю».
Па-беларуску вяду гаворку —
без перакладчыка разбяры! —
калі сустрэну ў гаі вавёрку,
калі спаткаю дзятла ў бары.
Я разумею зоркі і дайны.
Нябесным бразгаючы вядром,
мне прадвяшчаючы дождж хлебадайны,
па-беларуску буркае гром...
Не нарадзіўся ніхто ў кашулі, —
кожнаму доўга ісці і расці:
не разумеючы мовы матулі,
не зразумееш нічога ў жыцці.

* * *

Спрыяючы мудрым галовам,
Самадзяржаўным указам
Раздзелена думка са словам,
Каб не сваволілі разам...
Словам, як жвачкавай гумай,
Напоўнішы рот з тугою,
Што пажадаеш, думай,
А гавары другое!
Спазнала маё пакаленне
Яшчэ за школьнай партаю:
Калі мы гаворым Ленін,
Падразумеваем — партыя...
Асвойвайце вольны прастор вы,
Які і пагляд не абдыме...
Коцішся ўніз да прорвы,
А гавары:
— На ўздыме!
Сейбіты словы ў прыполе
Кідалі [illegible] выглядам барына:
Родзіць найлепей поле,
Якое абезгаспадарана!
Множачы чыры бязмежна,
Тоячы нораў распусны,
Словы ад дум незалежна
Пырхалі [illegible] вуснаў у вусны...
Правадыры хімеры
Мямлілі не без мукі
Тое, што ім на паперы
Неслі жрацы навукі.
Мовілі імем народа
Перад нясцерпнымі стратамі:
Лепшая ў свеце свабода —
Тая, якая за кратамі...
Дзе ён, той бохан тмінны,

Што вабіў скарынкай ружовай?
Скібачкі-успаміны
Моўчкі цяпер дажоўвай.
Звонам надзеі бумкай,
Торгаючы вяроўку:
Можа, нарэшце з думкай
Слова з'яднаецца зноўку?

. Зак. 491.

* * *

Штосьці з нашым домам адбываецца,
Нібы стаў нагамі дагары.
Ад налётаў ветру адбівацца,
Як у ліхаманцы, жыхары.
Ці адчуеш, як струменяць водарам
На акне пялёсткі дрогкіх руж,
Калі ходзіць несціхана ходырам
Хатняя спаянасць сцен і душ?
Што вы ні кажыце, а наведала
Нас усіх цудоўная пара:
Каб сям'я хоць нечым паабедала,
Пахкі суп згатуеш з тапара...
У сцяне прасвечваюць адтуліны,
Чорны чайнік, расплюскаўшы вар,
На пліце ў суседа перакулены,
Абдае сваім агнём мой твар.
Нібы падпярэзаны аблогаю,
Многапавярховы дом жыве:
Хтосьці, ураўняўшы столь з падлогаю,
Па маёй ступае галаве.
Дапатопным крэсівам запалены,
Мой ачаг айчынны не зачах:
Тых, якія нада мной пастаўлены,
Я трымаю на сваіх плячах...
Мы адною нітачкаю звязаны,
Ад якой няма куды ўцякаць,
Я нядрэмна слухаць абавязаны,
Пад якую музыку скакаць.
Тое, што на злом ужо асуджана,
Нельга ўратаваць усё адно,
Хоць пабіта ў доме ўся пасудзіна,
А шчаслівых твараў не відно...
Штосьці з нашым домам адбываецца:
Не маўчы над стрэхаю, бацян!

Нашы летуценні разбіваюцца,
Як талеркі іншапланецян.
Стаўшы абабітаю саломаю,
Зерне хлебадайнае дары...
Мне здаецца, што, як і жытло маё,
Мы стаім нагамі дагары.

# Дай мне песню спавядальную

Дай мне песню спавядальную,
Лямант плошчы прыглушы,
Дай мне блізкае і дальняе,
Што стаілася ў душы.

Ці ж не самае патрэбнае —
Мне з табой, табе са мной
Падзяліцца крошкай хлебнаю —
Нашай доляю зямной!

Не кішэннай меркай мераю
Я свой гонар, як і ты,
А выратавальнай вераю
У магутнасць дабраты.

Я вячэрняй павячэраю, —
Голад плоці прыдушу,
Вечна дбаючы пра чэрава,
Занядбалі мы душу.

Мне — людское, Богу — Богава,
Хоць цягнуся да нябёс,
Прычакаю, што ад бохана
Штось і мне адкроіць лёс.

Дай мне слова малітоўнае, —
Зачахлю трывог дуду
І пагібельна гвалтоўнае
Я ад долі адвяду.

Не парвецца повязь кроўная,
Продкаў і нашчадкаў ніць,
Толькі б нотай зазадроўнаю
Памінальную змяніць.

## *Уваход і выхад*

Учора яшчэ ўваходзілі,
А сёння таропка выходзяць.
Учора яшчэ верхаводзілі,
А сёння абрыдла, выходзіць?
Куды ж вы гэтак імкліва
З абдымкаў свайго волата,
Што вас калыхаў рупліва,
Дзеці Сярпа і Молата?
Вы ж працавалі заўзята,
Ведайце, не забыта,
Колькі Сярпом вашым зжата,
Молатам вашым пабіта.
Яшчэ падбіваюць нябёсы
Знішчальны рахунак бясконцы,
І вашы маленькія ўзносы
Ёсць у бяздоннай скарбонцы.
Таму мы гатовы міла
Паспагадаць хоць трохі
Нябогам, якіх стаміла
Ноша сумлення эпохі...
Дзень аддзяліўшы ад ночы,
Яны не зракаюцца выгад.
Раз увайшлі ўжо аднойчы,
Знаходзяць, нарэшце, выхад.
Творцам бязбожнай былі
Самаахвярным здаецца
Пакінуць усё, што зрабілі,
Тым, хто яшчэ застаецца.

## *Абойма*

Не, не абойма патронаў,
Якімі мы беды кілзакі,
Страляла абойма імёнаў
У анямелай залі.
Вяшчалі з трыбун клікушы —
Нязменна сваё рабіла
Абойма, якая вушы
Аглушаным пратрубіла.
Кумірам сваім вядомым
У парываннях зорных
Зала адказвала громам
Апладысментаў маторных.
Пасадным пакорныя тронам,
Даць не пасмелі бой мы
Пустапарожнім патронам
Той заржавелай абоймы...
Запозненым бачым паглядам,
Што праўда, а што для прыліку,
Хто быў у абойме з зарадам,
А хто дадаваўся да ліку.
Ці ж выб'ем, нарэшце, падпоркі
З-пад увянчанай дрэні?
Няўжо мы на вопыце горкім
І сёння не памудрэлі?
На службу любові народнай
Ужо нававбранцаў вярбуюць,
І таропкасцю неверагоднай
Абойму змяніць спрабуюць.
Кожнага, мусіць, па-свойму
Грэюць памкненні пустыя:
Трапіць хутчэй у абойму,
Патроны якой — халастыя.

## *Расказваюць Курапаты*

Расказваюць Курапаты
Крыкам магіл сваіх;
Былі ашчаднымі каты,
Былі няшчаднымі каты:
Куляй адной — дваіх.
За ашчаджоныя кулі
Шчодра плацілі ім.
...Лічаць ахвяр зязюлі
У наваколлі лясным.
Помніць дасюль акруга
Страшэнную самаабслугу:
Рыдлёўкі ў зямлі купалі,
Ямы сабе капалі
Вінныя без віны —
Званілі рыдлёвак званы...
Вінтоўкі прыцэл таропкі:
Забойцы, стаіўшы дых,
Смяротныя ставілі кропкі —
Куляй адной траіх.

* * *

Сказаў дрывасек:
— Пакары!
І з лютасцю крыважэрца
Тапор секануў па кары,
Дастаўшы лязом да сэрца...
Мне кожнага дрэва шкада,
Як добрага чалавека.
А болей гняце жуда:
Над лесам людзей — небяспека!
І хіба суцешышся тым,
Што вырабяць з дрэва паперы,
Дзе росчыркам гвалту крутым —
Усіх да вышэйшай меры?
Ці можаш, сучаснік мой,
Тым сябе супакоіць,
Што атамнаю зімой
Травінку твой попел угноіць?
Не маем мы дзвюх радзім,
Планета — наш дом адзіны.
Сук, на якім сядзім,
Сякеры не аддадзім мы.

## *Узнясенне*

На плошчы да золку світала,
Калі гранітнага бога
Скінула з п'едэстала
Рука бунтара маладога.
Нядаўна яшчэ на твары,
На вокны і тратуары
Цень свой вусаты кідала
Постаць каменнага ідала.
Людзі, насуперак стратам
Верачы ў праўду шчыра,
Заручаныя са страхам,
Туліліся ў цені куміра.
Бунтар на каменных абломках,
На мармуровай крошцы
Сябе адчуваў няёмка
У ролі пераможцы...
Горш ад нядаўняе ночы
Нясцерпна яго прыгнятала
Святло, што сляпіла вочы, —
Бліскучая гладзь п'едэстала.
Шматлюдны натоўп у наўколлі,
Што не вагаўся ніколі,
Звыклы вярхам такаць,
Не ведаў, смяяцца ці плакаць.
Пабачце, як здані бедаў,
Цені муроў знікаюць.
І толькі герой не ведаў,
Чаго ад яго чакаюць.
І раптам адчайна робіць
Ён крок да п'едэстала,
Каб постаццю ўласнай аздобіць
Высь, што пустэльнай стала.
Яго грамада гарою
На пастамент падсадзіла,

Аднагалосна героя
Да велічы прысудзіла...
Ён хоча прачула мовіць:
— Дзякуй, народзе мой любы...
Ды сам жа сябе ловіць —
Акамянелі губы.
О, гэта нясцерпнасць мукі,
Калі душа ў паняверцы!
Без руху —
Каменныя рукі,
Без стуку —
Каменнае сэрца.
І толькі працуюць вушы:
Чуецца, якураганна
Грымяць навакол сушы
Воплеску —
Шторм акіяна.

## *Ганіцелі і гнаныя*

Уповлеч з непакорай здзек,
Святоша і заганны.
Бягуць няспынна з веку ў век
Ганіцель, як і гнаны.
Бягуць, як здані з-за куліс,
Пад месячным акрайцам
За мышкай — кот,
За куркай — ліс,
І воўк — за шэрым зайцам...
Сем раз адмер, а раз адрэж, —
Схавала промні хмара.
І не адразу разбярэш,
Дзе кат, а дзе ахвяра.
Калі грымота перуноў
З вышынь ураз бабахне,
Азарт варожы бегуноў
У міг адзін ачахне.
І поруч з зайцам воўк ужо
Пад куст сігаюць міла —
Нябёс грымотнае ружжо
Іх зараз парадніла.
Звяры — паміж сабой браты,
Хай у пушку іх пыскі,
Яны таксама, як і ты,
[redacted] адной зямной калыскі.
І штосьці на душы скрабе,
Чаго не выняць вонкі:
І воўк, і заяц у табе
Бягуць наперагонкі.
Віецца аж за небакрай
Сцяжына, як вяроўка...
Ах, заяц, заяц, пачакай,
Ну, пашкадуй жа воўка!

## *Арэнда*

Як даўніх часоў легенда,
У дзверы да нас раптоўна
Пастукалася арэнда —
Ратоўна і малітоўна.
Пастукалася загадкай,
Пратупаўшы шлях няблізкі, —
Яе мы ўпускаем з аглядкай,
З правам часовай прапіскі...

На забарону скаргі
Не слухае ключнік пры браме.
Бяром у арэнду скарбы,
Што самі ў сябе адабралі.
Навошта ў бязводдзі рыбачыць,
Маючы зрок прарочы?
Калі не ўмееце бачыць,
Бярыце ў арэнду вочы!

Што вам, аглухлым, рухаць,
Маліцца на мёртвыя душы?
Калі развучыліся слухаць,
Дык арандуйце вушы!
Ці ж вы скляпаны са сталі,
Каб верыць чыноўнай мерцы?
Калі адчуваць перасталі,
Бярыце ў арэнду сэрцы!

Дык высявай жа зерне,
Мары сваёй завадатар, —
І хлебнае золата верне
Ніва табе, арандатар!
Мы здзірванелае ўздыбілі:
Застойнае поле — нарогу!
Зямлю, што з-пад рук выбілі,
Народ вяртае народу...

Руплiва ў прытулку кватэрным
Надзею на заўтра гадуем,
Пакуль свой жыццёвы тэрмiн
У вечнасцi арандуем.

## *Посах*

Век чалавечы кароткі —
Няўмольныя лёсу ножны.
Бога няма: а ўсё-ткі
Верыць у нешта кожны.
Хмараў варожасці навісь
У нас пераймае дыханне.
Верыць адзін у нянавісць,
Верыць другі ў каханне.
Адзін — у кулак грымотны,
Што бліжніх трымае ў палоне.
Другі — у дотык пяшчотны
Ратоўнай сяброўскай далоні.
Як страшна, калі ў імгненне
Ад выбуху ўвысь узлятае
Ідал твайго пакалення,
Твая мана святая...
Чым свае душы абуюць
У будзень нясцерпна золкі
Шаленцы, што склеіць спрабуюць
Патрушчанай веры асколкі?
Босым падэшвам сніцца
Нязнанага колкая неруш,
Дзе далягляд праясніцца...
Жывеш ты, пакуль ты верыш!
Каб веру людскую змерыць,
Яшчэ не знойдзена мерка.
Нават зняверанwhy верыць,
Што пройдзе яго паняверка.
Цікуе нявер'я піраства
І на зямлі і ў нябёсах...
На што без цябе апірацца,
Вера — сляпога посах?

## *Паэзія*

Словы-цвікі ў падэшвы
Загоніць шавец — і рад...
Хвілі натхнення, дзе ж вы?
Паэзія, я — твой брат!
Як фокуснік з рота, цягнуць
Слоў зіхатлівую вязь.
Выстукаць оду прагнуць:
— Тук!
— Бух!
— Лясь!
Ах, як заліваецца лоўка,
На шчоўканне трапячы дар,
Тытулаваны салоўка,
Рэдагаваны дудар!
Становяцца ў рад адмысловы,
Выстойваючы чаргу,
Словы, што ціснуць на словы...
Паэзія, дзе ж ты?
А-гу!
Паэзія —
Як Айчына,
Што ў шчасці з табой і ў бядзе,
Паэзія —
Як Жанчына,
Што ў вечнасць з табой ідзе!
Паэзія —
Крылы ў неба,
Што вучыць зямлёй даражыць.
Паэзіяй дыхаць трэба,
Паэзіяй трэба жыць.

## *Боль наш нясцерпны...*

Лік абыякавых менее —
Чэрствасць у горы пазбудзеш.
Боль наш нясцерпны — Арменія,
Ты і яднаеш, і будзіш.
Кажучы «стоп» калецтву,
Людзі ў бядзе не схібілі.
Спяшаецца чалавецтва
Сябе ратаваць ад пагібелі.
Не, не вандроўка службовая
Да араряцкага піку,
Кліч «памажы» завярбоўвае
На подзвіг будзённы без крыку.
Верым, у час адменны
Надыдзе тваё ўваскрасенне,
Арменія — прывід страшэнны
Сусветнага землятрасення.
...Малышка сцяжынкай звонкай
Бяжыць — яе крок непадробны:
Трымае на нітачцы тонкай
Шар, да зямнога падобны.

## *Крыжы на вокнах*

Зірну і адчайна войкну,
Ахопіць шчымлівы жах:
Крыжы і крыжы на вокнах...
Ці вокны на крыжах?
На лаўцы, дзе надвячоркам
Сядзела мая радня,
Журыцца з тварам горкім
Магільная цішыня.
Ні голаса, ні адгалоска,
Ні колаca, ні шыша...
Распята не толькі вёска,
Распята мая душа.
Пакінулі і адтрубілі
Уладу хацін і садоў.
За што цябе, вёска, забілі —
Прамаці ўсіх гарадоў?
Божа, расхрыстаным сем'ям
Згублены лад падары!
Дзе вы,
Нечарназем'я
Беглыя плугары?
У хор безаблічны лучыце
Стадныя галасы...
Каго вы цяпер вучыце,
Як гадаваць каласы?
І выгукнеш толькі, — ах ты!
Зажмурышся ад святла:
У садзе з пялёсткавай шахты
Мёд дастае пчала.

* * *

Вузел долі сваёй распутаем,
зразумеем, чаму пакутуем,
падсумуем,
аб чым сумуем...
Тых, што вечна аралі і сеялі,
па бязмежжы Гулага развеялі,
змардавалі і апаганілі —
рассяляніліі.
Да асноў мы сябе перайначылі.
А як [redacted] воч пеляну адвесілі,
здрыгануліся ў жаху: убачылі,
што свой край баравы
абязлесілі.
Як пад серп
прыгавораны колас,
мы схіляліся — так нам мовілі!
Тых, што роспачна думалі ўголас,
абезгаловілі.
Мы, аслепшы ад прывіду,
Бога
У вусатым прызналі пудзіле,
што прыводзіла ў шал любога, —
дом бацькоўскі суздром
абязлюдзілі.
Сваім ка́там люляючы славу,
паняверкаю душы нявечылі,
найвялікшую ў свеце дзяржаву
расчалавечылі.
Можа,
ты дапаможаш, Божа,
як нам выбрацца з бездарожжа,
і падкажаш, дзе б мы пазычылі
твары тым,
каго абязлічылі?

## *Хвала Цытаце*

Не родных бацькоў, маму ці тату,
якія ад крыўдаў давалі сховішча,
уславім не ўсёмагутнасць Цытату,
што выйсце пакажа
з любога становішча!
Калі ў абароне ад слоўнага шроту
даходзіш у спрэчцы да сёмага поту,
Цытата табе дапамогаю хуткай
лоб выцірае хусцінкай ціхуткай.
Жабрацтва сваё не прымайце з адчаем,
ніхто пазыку за сорам не лічыць, —
калі мы ў суседа хлеб пазычаем,
чаму б і мудрасці не пазычыць?
Зрэшты, разважыўшы па-цвярозаму,
можаш Цытату і раздвукосіць,
зрабіўшы набыткам уласнага розуму,
а гэта па лесвіцы ўверх узносіць!
Цытата прамоўцы — як конніку шпора,
Цытата — заслона,
Цытата — апора
і духу твайго,
і пасаднага крэсла,
Цытата — настой,
каб ад страху не трэсла...
Ты між галоў не збянтэжышся босых,
калі табе кемнасць належыць па штату,
упэўнена,
як невідушчы на посах,
абапіраешся на Цытату.
Абедня, вячэра і спеўная споведзь,
ратунак ад прошукаў супастата,
Цытата ўздымае, і корміць, і поіць...
Дык будзь у вяках блаславёнай,
Цытата!

* * *

Калі прасіў я крошкі ў вас,
Вы ежай смачна жвякалі,
Скрозь зубы цэдзячы ў адказ:
— Не замінай, —
Няма калі!
Ах, як зласліўцы на мяне
З балотца дружна квакалі!
Ці ты памог спыніць іх? Не!
Ты мармытаў:
— Няма калі...
Кагось пад сховам цемнаты
Пад дых кастэтам шмякалі
Зладзюкі хцівыя.
А ты?
А ты пабег:
— Няма калі.
Калі гарэў суседскі дом,
Грымотна бэлькі гакалі.
Ды ты не кінуўся з вядром
Тушыць агонь:
— Няма калі...
Анёльскім звонам клікаў храм,
Твае ж абцасы звякалі, —
Ляцеў ты да гандлёвых крам,
Шаптаў сабе:
— Няма калі...
З атрутных воўчых кветак зла
Ці ж узгадуеш ягады,
Што палымнеюць ад святла,
Ад слодычы, ад злагады?
Вы сталі добранькімі ўраз,
Калі свой век прачвякалі:
Ах, што б зрабіць хоць напаказ?
Ды ўжо і жыць
Няма калі!



Прывід блукаў па Еўропе,
І ад яго з той пары
У абстраляным акопе
Свет адбіваўся стары.
У прывідзе, як у хлебе,
Людзі ратунак знайшлі:
Раю няма на небе —
Створым яго на зямлі!
Усё, што было, бракавалі
Градам удараў ламы.
Касцямі братоў брукавалі
Дарогу ў наступнае мы.
То статкавым гуртам, то строем
Пад барабанны грай
Канвойнымі ці пад канвоем —
У непазбыўны рай.
Мы ў чэргах кіламетровых,
А завадатары зграй
Абцасамі па галовах —
Цiснуць у прывідны рай...
Узвыеш ад сумнай весці
Голасам сціснутых скаб:
— Не даяце пад'есці,
Дайце напіцца хаця б!
Ад ціскаціны злачыннай
Хутка — пабачыце вы! —
Асколак Вялікай Айчыннай
Выстраліць з галавы...
Гляджу з-пад рукі: якая
Эра з туману ўстае?
Прывід ужо не блукае,
Прывід ужо растае.

## *На рынак*

— На рынак!
— А чым гандлююць?
Пампушкамі.
Стужкамі.
Птушкамі.
Пакупнікоў габлююць —
Чырвонцы ляцяць стружкамі!
Да дзівадайных палатак,
Да мандарынавых хатак —
Шматпавярховых скрынак, —
На рынак!
Па пераспелы персік,
Па кавуновыя персі,
Па слодыч красунь-мандарынак, —
На рынак!
Брацтва базарнае здзейсніць
Спяшаюцца тлумна сябры:
Інжыр ерэванскі —
па дзесяць,
Слуцкая бэра —
па тры.
Гандлёвым адданыя хвалям,
Вагаемся, ганім і хвалім,
Хістаемся, калыхаемся,
Мы дыхаем,
Мы задыхаемся...
Суцішцеся, што за бяда вам!
Да гандляра паветра
Змяіцца пругкім удавам:
Чарга на паўкіламетра.
Уласнік, спавіты аўчынаю,
Позірк нацэльвае люты:
— Не прадаю за айчынныя...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . .

Валюты —
Глыток валюты!
Шанц свой апошні спрабуем:
Рынуўшы,
Не адрынуць!
Заплюшчыўшы вочы, шыбуем,
Быццам у бездань,
На рынак.

## *Пераходная пара*

Трацім гэтак, як знаходзім,
З мерай гонару свайго.
Пераходзім, пераходзім —
Ад чаго і да чаго?
Каля бездані на ўскраі
Нас дарога павяла
Ад казарменнага раю
Да цывільнага жытла.
Не прыпыняць град і слота
Нашай суднае хады —
Ад застойнага балота
Да крынічнае вады.
Ад апаскі, ад указкі,
Набрынялай у крыві,
Ад нянавісці да ласкі,
Да ратоўнае любві.
Бераг левы, бераг правы,
Я — на тым, на гэтым — ты...
Пераходнай пераправы
Вельмі хісткія масты.
Штурмавыя пераходы
Перахопліваюць дых.
Пераходы — параходы
На гайданках штармавых.
Хай камусьці не дагодзім —
Жыў бы толькі Чалавек! —
Пераходзім, пераходзім
З эры ў эру,
З веку ў век.
Ці ж адолець страх авечы
Хуткім росчыркам пяра?
Цэлы век мой чалавечы —
Пераходная пара.

## *Майстар прыйдзе заўтра*

Бунтоўны вецер перамен
Сарваў раптоўна з петляў дзверы
І пакрышыў тынкоўку сцен —
Скразняк гуляе па кватэры.
Столь і падлога аж гудуць, —
Трасуся я ў адной кашулі,
Скакаць упрысядкі ідуць
Талеркі, міскі і каструлі...
— Куды, куды падаўся ты,
Саган, з-пад роднае павеці?
Ах, я счарнеў ад пустаты,
Пайду, пайду шукаць па свеце!..
Маланкі воч, што я лаўлю,
Мяне пранізваюць здалёку.
І распранаюся і сплю
У вуліцы навідавоку.
Адзін таропка праміне,
Другі ўтаропіцца заядла —
Дрыготкім позіркам з мяне
Здзірае прагна прасцірадла...
Пра тое ўжо і не кажы,
Што нехта, хто спажывы прагне,
Не адчуваючы мяжы,
Руку грабежніка працягне...
Я ў аварыйную званю,
А мне [illegible] нязменнасцю заўзята
У тэлефон не ўпершыню
Гукаюць:
— Майстар прыйдзе заўтра.

## *Маёй любові спадчына*

Айчынных скарбаў спадчына,
Скарбонка продкаў, дзе яна?
Разгублена, растрачана,
Распылена, развеяна.
Прыкладваю да вуха я
Скарбонку — чуйна слухаю:
Звініць яна, як макаўка,
Грыміць яна, як ракаўка.
Бруістай хваляй возера,
Што слых маленства лашчыла,
І лапаю бульдозера
Каменна загрувашчана;
Маёю мовай крэўнаю —
Заклятаю царэўнаю,
Што сэрцу, як аддушына,
І што суздром прыдушана;
Бярозай беластвольнаю,
Якою даль прасвечана,
І што рукой няўмольнаю
Ужо разбойна ссечана...
Што мне вякамі спрадзена,
Як калыханка матчына, —
Украдзена, прададзена
Маёй любові спадчына.



Сёння няўмольна карчуеце,
Што ўчора саджалі тапорна.
Чуеце,
Чуеце,
Чуеце,
Як тахкае сэрца маторна?
Тыя, што клеілі выракі,
Сцінаюць грыбам галовы...
Лірыкі,
Лірыкі,
Лірыкі,
Просяць азяблыя словы.
Нам у нязнаную шыр ісці,
Дзе міны маны схаваны...
— Шчырасці!
— Шчырасці!
— Шчырасці! —
Покліч расце ўсхваляваны.
Хто там пад промнем адкрытасці
Сценку штурхае на сценку?
Літасці,
Літасці,
Літасці —
Заложнікам стогну і енку
Звадак ваўчыныя ягады
Кра́дуцца гвалтам у збожжа...
Злагады,
Злагады,
Злагады
Дай перасвараным, Божа!
Трызнім усё яшчэ стоена
Хвілінай, калі без указкі,
Будзе душа перастроена
На лад міласэрнае ласкі!

## *Пад дахам крылаў*

Звабную даль небасхілаў
Не загародзяць хмары,
Калі ты пад дахам крылаў,
Што вырастаюць з мары.
Ах, дзе вы, маленства меркі
Дзёрзкіх лятункаў спробы,
Калі самалёт —
З паперкі,
Калі з пяску —
Небаскробы?
Бароняць нябёс парасоны
Мяне ад дажджу і сонца,
Крылы —
Мой дах перасоўны,
Прыручаны мой абаронца.
Не ведаю, дзе заначую,
Адкуль вазьму я сілы,
Калі галавой не адчую,
Што рукі — мае крылы...
Мне кожны куток — святліца,
Што абжываю духам.
Калі да зямлі прытуліцца,
Буду лунаць пухам.
Галіны, што неба хістаюць,
Я з каранямі звязваю.
— Дзе ты жывеш? — пытаюць.
— Пад дахам крылаў! —
Адказваю.

## *З якой мы паходзім быліны*

У нязбытнае верыць ахвочы,
Будавалі свой цуд нездарма,
Але сталі відушчымі вочы:
Божа праведны,
дома няма!

Ах, з якой мы паходзім быліны?
Мы, руйнуючы свет стары,
Клалі ў велічны прывід цагліны
На дзяржаўным сваім пустыры.

Хто апранены ў дзіры, хто босы, —
Але секлі ўсіх спакваля
Бізунамі дажджоў —
Нябёсы,
Бізунамі канвойных —
Зямля.

Грызлі дол з упартасцю крота,
Гадавалі свае гарбы,
Пад аховай калючага дроту
Паўтараючы:
— Мы не рабы!

І была для нас, як аздоба,
Вера ў тое, што мы ля руля,
Што астрожная наша роба
Даражэй,
як убор караля...

Ярка ўспыхнула тое, што тлела,
Загудзеў наш айчынны ачаг.
Пасвятлела і прасвятлела, —
Быццам брытваю па вачах!

Мы бунтуем,
Душой лямантуем
Да знямогі, да высахлых слёз,
Судна долю сваю рамантуем,
Гераічна цыруем лёс.

## *Заложнік прамоўнага граю*

Мудрыя аналітыкі,
Лірыкі срэбнаструнныя
Усе падаліся ў палітыкі,
У вяшчуны трыбунныя.

Кінуўшы плуг у полі,
Загаварылі аратыя
У званкагорлым суполлі:
Аратыя ўжо — аратары!

Свой калаўрот пакідаюць
Праллі, дзяржаўна няўлоўныя,
На форумах засядаюць,
Цягнучы нітку слоўную.

Шырацца гулкія спрэчкі,
Куркі бяруць слова:
Ужо не нясуць яечкі —
Кудахтаюць мітынгова...

І мне карціць на плошчы,
Дзе вецер бунтоўны хвошча,
У шматгалоссі спеўным
Закукарэкаць пеўнем...

І я з грамадой раскашую,
Заложнік прамоўнага граю.
Навошта мне хлеб і кашуля?
Будучыню прымяраю.

* * *

Мужчына — паляўнічы,
Лесавіку радня,
Свой позірк ваяўнічы
Нацэльваеш штодня.
Трымаеш востра вока —
Бядзе наперарэз.
А як баішся воўка,
Дык не хадзі і ў лес!
Рупліўца загартоўкі
Не страшыць шлях круты:
Хоць ты без дубальтоўкі,
На паляванні ты!
І не спяшайся рана
Ты спасаваць, аднак,
А драпіна ці рана —
Тваёй адвагі знак.
Палюй жа дабрачынна,
Хай слота, хай пурга,
Пакуль твая жанчына
На варце ачага.
З паглядам пераможным
Трафеі прынясі,
А вернешся з парожнім,
Спагады не прасі!

* * *

Хто згаджаецца, хто не згаджаецца
З тым, што нешта ў жыцці нараджаецца.
Нараджаюцца розныя рэчы
Ад сустрэчы,
Ад кожнай сустрэчы.
Ад сустрэчы пяра з паперою
Нараджаюцца спеўныя словы.
Ад сустрэчы дрэва з сякераю
З трэскам трэскі ляцяць і дровы.
Ад сустрэчы з крэменем крэсіва
Іскры ўспыхваюць трапяткія —
І прачэрцяцца ў цемры акрэслена
Абра́зы і аблічча людскія.
Зерне ў ворыва акунаецца —
Сейбіт вершыць таемнасць прыгожа:
Пачынаецца,
Пачынаецца
Кругахлебнае падарожжа!
К палатну дакранаецца натхнёна
Пэндзаль боскі — вядзьмар вялікі.
І ў душу нам ужо пранікнёна
Зазіраюць анёльскія лікі.
Хто ад бліжняга адгародзіцца,
Калі ўсе мы ў адной крутаверці?
Не сядзіце як багародзіца:
У сустрэчах —
Ратунак ад смерці!
Будзь, зямля мая, дабрачыннаю,
Каб паўнелі скарбонкава клеці.
Ад сустрэчы мужчыны з жанчынаю
Нараджаюцца ў злагадзе дзеці.
Сустракаемся,
Дакранаемся,
Спатыкаемся,

Потым каемся,
Каб не вывеўся род чалавечы...
Ах, сустрэчы,
Сустрэчы,
Сустрэчы!

## *Што баліць*

Сустракаючы дзень, як нядзелю,
Што пастукае ў нашы дамы́,
Не блакітны экран, а надзею
Уключаем на досвітку мы
Дзе вы немач сваю схавалі?
Спадзяванняў і боляў гамак
На нябачанай тэлехвалі
Калыхае Алан Чумак.
Калі сэрца рыпіць іржавае,
Фанабэрыю прыдушы, —
Найвялікшая ў свеце дзяржава
Захварэла на чэрствасць душы.
Каб у цемрадзі іскру высечы,
Нараджаецца Паладзін:
Што не могуць застойныя тысячы,
Чарадзейна творыць адзін.
Хто там з зайздрасці або з прыкрасці
(Тытулованы ліхадзей?)
Намагаецца ўпотайкі выкрасці
Скарб — ратоўны —
Надзею ў людзей!
Спахмурнелі жрацы навукі:
Цуд выпырхвае з рукава?
Што баліць? І ногі, і рукі,
А найболей за ўсё — галава!
І гучыць, нібы выстрал: — Штукарства!
Ды не трацім мы веры ані,
Што працуе яшчэ лякарства
Чалавечае дабрыні.
Адступаецца згубная скруха
Ад усіх, хто ў адчаі размяк.
— Я лячу вас настоем духа,
Уваскрэсніце! —
Кажа Чумак.

* * *

Ка мне пастукала,
Як свята.
І я адчуў —
Не мімаходзь.
Ка мне пастукала —
Без свата—
І я сказаў табе:
— Заходзь!
І ты з'явілася, як доля, —
І стала светла, светла ў доме
Ад вугалькоў тваіх вачэй
У цемрадзі маіх начэй.
Не знаю, што са мною стала,
Мая залётная радня.
Ты шчабятала, шчабятала,
Як трапяткое птушаня.
Я столькі год тужыў аб гэткай
Хвіліне, што як цэлы век.
Табе мой дом не будзе клеткай,
Мой легкакрылы чалавек.
Прыйшла сама. Прыйшла без свата.
Як моцна верыў я тады,
Што нашы дні і ночы — свята,
Якому доўжыцца заўжды...
Ты, дотыкам пяшчоты шчырай
Вярнуўшы мне юнацтва дні,
Зноў адляціш у вольны вырай
Да зманлівай далечыні.
І мне не зняць да скону латы
З душы, напятай дабяла.
Не дакараю,
Што пайшла ты,
Кажу я дзякуй,
Што была.

Ці ж мог пякуча непакоіць
Шчаслівага разлік прамы:
Калі гады твае падвоіць,
Былі б равеснікамі мы.

* * *

Палкоўнікі хочуць улады,
Даўно яе смак адчулі.
Іх аргументы —
Прыклады,
Іх лепшыя довады —
Кулі.
Маючы нораў свойскі,
Басам гукаюць пявучым:
— І гарады, і вёскі
Строем хадзіць навучым.
Тое, што ў сэрцы гадуем,
Людзям нясём, як дар мы:
Шчасце сваё збудуем
Па ўзору салдацкай казармы!
Свінцовыя ўзважваем долькі
Імем сваёй Радзімы,
Зрэнкамі дулаў толькі
На тых, хто не з намі, глядзім мы.
Загад — аднамыснасці зерне,
Скамандуеш, скажам, направа, —
І паслухмяна паверне
Уся аж да ўскраін дзяржава.
Крокам ідзём пераможным
Да мэты, якой мы прагнем,
Вайсковы рамень на кожным
Да дзіркі апошняй зацягнем!
Мы знаем, куды падзенем
Стракатасць, што вочы коле, —
Цэлы народ адзенем
У шэры шынельны колер...
Ці знойдзецца рызыкоўнік
Без страху зірнуць на пагоны?
Палкоўнік заўжды палкоўнік,
Чорны ён ці чырвоны.

## *Што мы рабілі*

Секунды цікаюць і ўцякаюць.
Болем, які ўжо не заглушу,
Думы бяссонныя апякаюць,
Агнём праціваюць навылет душу.
Што мы рабілі?
Што мы рабілі?
Пад варанячы канвойны грай
Самі дарогу сабе церабілі
У лагерны рай агароджаных зграй.
Што мы рабілі?
Што мы рабілі?
Не закілзаўшы прымус і здзек,
Колькі сваіх аднаверцаў забілі,
Колькі пакінулі ўдоў і калек.
І генералы, і радавыя
Уроўнены кулямі ў званні адным, —
Завея ваўчыцай няўцешна вые
Над іх невядомым прыстанкам зямным.
Што мы рабілі?
Што мы рабілі?
Колькі аратых сваіх загубілі!
Горкая праўда гоіць і коле.
Ах, гавары не гавары,
Але яе не пачуюць ніколі
Замардаваныя плугары,
Што спаконвек не збіваліся з тропу,
Дыбалі ў вупражы разам з канём,
Кормячы хлебам сябе і Еўропу
Пад несціханым сваім груганнём.
Што мы рабілі?
Камень драбілі,
Сталінскай мудрасці грызлі граніт,
Пад ногі таму, каго не любілі,
Шпурлялі нянавісці дынаміт...

Душ не ўлагодзіць вялікдзень і сёму
Нам,
Гадаванцам дубца і свінца,
Вечным заложнікам трыццаць сёмага,
Якому, здаецца, не будзе канца.

## Цвікі і малаткі

Як прадракалі,
так і зрабілі —
намі да гмаху
шыльду прыбілі:
«Для ўсіх жабракоў рай збудаваны!»
Пануйце, Лявоны,
царуйце, Іваны!
І сталі адразу
усе, хто з рукамі,
адны — малаткамі,
другія — цвікамі.
Нас заганялі,
і мы заганялі,
калі непакорных братоў
распіналі...
Пранізаш далонь,
прадзіравіш і камень,
калі па галоўцы табе —
малаткамі.
Нас забівалі, і мы забівалі, —
запаведзь боскую
забывалі.
Адкуль мы паходзім,
і знаць не зналі
наследнікі тых,
што Хрыста распіналі.
Не разумее
толькі нікчэмнасць,
што ў пакаленнях цвікоў —
пераемнасць.
Ці ж не рабілі
адно і тое
культу цвікі
і цвікі застою?

Кожны з нас чуўся
наступнага донарам,
пра гэта гаворым
з болем і гонарам.
Хіба ж не намі,
жалезнымі, збіты
дошкі
зямной і нябеснай арбіты?
Дом наш,
якому стаяць у вяках,
трымаецца, ведаем,
на цвіках!
Таму і пытаем мы,
хто ты такі,
што мовіш,
быццам мы ўжо не цвікі?
Хоць і згінала нас
абавязковая
служба цвіковая
і малатковая,
мы да яе ўжо
прывыклі страшэнна,
і без яе ўжо —
ох, як нам дрэнна!
Ідуць на спачын, што заслужаны кроўю,
цяпер малаткі
па стану здароўя...
А нас ліхаманіць,
нібы цунамі,
одум пакутны:
што ж будзе з намі?
Ні словам,
ні нават дзяржаўным паперам,
што мы не цвікі ўжо,
не верым,
не верым.



З людскасцю згубленай лучымся
вучымся
вучымся
вучымся
хадзіць
гаварыць
пісаць

з мёртвых уваскрасаць

хадзіць
каб не слеп відушчы
хадзіць
каб жалезны абцас
травы
жыты
і душы
не падмінаў
як прас

а як гаварыць
гаварыць
калі душа гарыць
не пазычаючы думкі
скарбы з чужой сумкі
без усявышняй указкі
і без вярхоўнай падказкі
мовіць
такія словы
каб бралі іх

нібы вясло вы
каб рассякалі віры
як мудрыя весляры

каб несці
добрыя весці
з цвярозаю галавой
да берага згоды весці
разгойданы човен свой

пісаць
калі сэрца бунтуе
калі ніхто не дыктуе
пісаць
каб вясёлкавым дугам
ззяць непаўторным святлом
у полі —
сялянскім плугам
у небе —
птушыным крылом

хадзіць
гаварыць
пісаць
іскры свабоды красаць

## *З матчыным словам*

Цудам атулены,
Гоіце беды вы,
Словы матуліны,
Бацькавы, дзедавы.
Словы, што слухаю,
Продкамі дадзены,
Як папрадухаю,
Праўдаю спрадзены
Слова —
Для радасці рупнае
Повад,
Слова —
[redacted] былога ў наступнае
Провад.
Мова —
Скарбонкавы
Збор шматвяковы,
Водар рамонкавы,
Хор васільковы.
Шлях свой асвецім
Словам, як промнем,
Пра гэта і дзецям,
І ўнукам напомнім,
Слова —
Выснова
Боскага царства,
Мова —
Замова
Ад зла і махлярства.
Мова —
Сумлення
Шчырая споведзь,
Душ і малення
Вечная повязь.

Вось і вясло вам,
Якому паверце:
З матчыным словам —
Рух у бяссмерце!

* * *

Так водзіцца спакон вякоў,
Пра што не думаем часамі,
Нам доля дорыць сваякоў,
Сяброў мы выбіраем самі.
Сваяк табе — заўжды сваяк,
Няхай ён нават і нашкодзіць,
Ды з ім ніколі і ніяк
Цябе Ўсявышні не разводзіць.
Сваймy і прыкрасць сыдзе [illegible] рук,
Спагонім з друга мы сурова.
У доўг заўжды бярэ сябрук,
А сваяку даём дармова.
І каб не рупіла раўці
На нас здаляваўчыным зграям,
Як паратунак, у жыцці
Сабе сяброў мы выбіраем.
Шукаем верных мы сяброў,
Каб свет наш злагаду агораў,
Сярод вятроў,
Сярод звяроў,
Сярод бароў, і гор, і мораў...
— Будзь мне збавеннем у бядзе,
Як жыццядайная крыніца,
Гаі мяне! —
Кажу вадзе,
Якой патоп сусветны сніцца.
Я ад імя людзей і дрэў
Малю агонь, што паліць храбра,
Каб ён не спапяляў, а грэў,
Як даўні мой і верны сябра.
Лёд адчужэння растае,
Яснее тое, што абралі,
Калі і сваякі твае
Становяцца табе сябрамі.

* * *

Вятрыска, сябра хмарам,
Гаючая бруя
На лузе гаспадарым
Удвух — унук і я.
Спякота. Ціш. Ні гуку.
Набегам хваль ільне
Трава — па плечы ўнуку
І па калені — мне.
І трапяткое дзіва
Ляціць, відаць здалёк,
І лёгка і гулліва —
Стракаты матылёк.
Маёй душы патрэба
У вышыні звініць,
Крылом з зямлі да неба
Працягваючы ніць.
Якое гэта шчасце
Сігаць за небасхіл,
Здзяйсняючы прычасце
Да матыльковых крыл!
Я падстаўляю жменькі,
Расчулены суздром:
— Сядай, анёл маленькі,
На мой аэрадром!
Ты — дзьмухавец, і лотаць,
І ружа, —
Цэлы сад!
Хоць я не ўмею лётаць,
Я твой бяскрылы брат.
Не скоўваючы дум бы,
Ляцець нам —
Навучы! —
Дзве кветкавыя клумбы
На крылах несучы.

Не знае свет старэння,
Пакуль мы, як сям'я,
Тры боскія стварэнні —
Унук, матыль і я.

## *Дзяржаўныя пацалункі*

— Хто цалуецца?
— Маладыя!
Ах, даніна далёкіх гадоў!
Быў расчулена рады тады я
Ад абдымкаў дзяржаўных дзядоў.
Ці ж не воплескі вашы і нашы
Грукаталі абвалам з гары,
Калі ў нерушы ўласнае пашы
Шчыравалі правадыры.
Верабейка ў здзіўленні ціўкаў,
Назіраючы з даху нябёс,
Як цалуецца з Брэжневым Жыўкаў,
Заміраючы, —
Узасос...
У бабулек, якіх становішча
Неадступна згінала у крук,
Ад нябачанага відовішча
Слёзы падалі самі на брук.
А не можа падчас дацягнуцца
Брат прастольны да брата свайго,
Памагатыя ўраз адгукнуцца
І падсадзяць на ўзровень яго.
Ледзь адбудзецца —
Свету на радасць! —
Палкі дотык вярхоўных ілбоў,
І адразу падыме свой градус
Наша еднасць і наша любоў...
Нам, заложнікам сталінскай эры,
Гадаванцам застольных гадоў,
Быў зарукай надзеі і веры
Пацалунак дзяржаўных дзядоў.

* * *

З рукою ўскінутай помнікі,
Якім пакланялася вуліца.
Сёння, нібы бяздомнікі,
На плошчах самотна туляцца.
Не прадугадвалі, крыж які
Ім давядзецца несці, —
Бяруць іх каменныя дрыжыкі
Ад громападобнай весці.
Ах, колькі іх доля раскідала
Па гарадах і сялібах!
Уздрыгвае постаць ідала:
Выбух!
За выбухам—выбух...
Звыклі мы бачыць з маленства
Профіль каменнага бога.
Што гэта?
Выбух шаленства
Ці выбух гневу людскога?
Роздум свідруе колкі:
Хтосьці душой балюе,
Хтосьці збірае асколкі,
Каб веру склеіць былую...
Мы, славячы вызваліцеля,
Прымалі — ні мала ні многа —
Ганіцеля за збавіцеля,
Д'ябла за бога зямнога.
Як да вышэйшай меры,
Мы лёсам сваім прыгавораны
Расчаравацца ў веры,
У міфе, што прывідна створаны...
Не могуць ніяк паломнікі
Аплакаць былыя святыні,
Паломнікі —
Як палоннікі

Айчыннай сваёй пустыні.
Выходзім з імперскай арцелі
І міражоў, і рэліквій...
Ах, як мы асірацелі,
Дзеці маны вялікай!
Веліч, што з каменя выбухаў
Люд наш, —
Панікла ў друзе.
Калоцяцца ў страху ад выбухаў
Вокны ва ўсім Саюзе...
Няўжо мы, нарэшце, забудзем
Бацьку сваёй катастрофы,
Які атуманеным людзям
Шлях паказаў да Галгофы?

* * *

Куды не дацягвалі рукі
(ад верху да самага днішча!)
жрацы ненажэрнай навукі —
навукі ламаць і нішчыць?
Сухім трымаючы порах,
яны і сягоння вяшчаюць:
калі не здаецца вораг,
няўмольна яго знішчаюць!
Лад вынаходзячы новы,
нішчылі тых, хто не нішчыў, —
да каранёў, да асновы,
да друзу і папялішчаў.
Забойца, страляй, не бойся
як подзвіг, вяршы забойства:
ты абавязак выконваеш —
кулямі пераконваеш!
Прыцэльвайся пільным вокам,
не тоячы дулю ў кішэні:
куды ні зірнеш навокал —
мішэні,
мішэні,
мішэні...
Страта любая — не страта
перад айчынным цунамі.
Ні бацькі, ні друга, ні брата, —
мішэні адны перад намі!
Зрэнкі знішчальнай поскудзі,
ад лютасці трапяткія,
дзіравяць не толькі постаці,
але і душы людскія...

Поле без коласа,
вусны без голаса,
вокны без шыбы —
бачыце вы? —

людзі і рыбы
без галавы.
Працуе цвяроза
знішчальная школа:
кола без воза —
пятае кола...
Якую ты моц набываеш!
Долькай свінца, што ў нагане,
махам адным выбіваеш
зямлю, што была пад нагамі.
Самі сябе чвартуем
не ў даўніх паданнях, наяве
роспачна лямантуем:
— Каін, дзе брат твой Авель?

* * *

Шуму было многа:
мянялі дзеля дабра
веру святую ў Бога
на веру ў правадыра.
Пачаўшы смяротную бітву
з думаю, што ў галаве,
гвалтоўна змянілі малітву
на вокліч:
— Няхай жыве!
І жыў ён да самага скону,
ажно ліхаманіла свет,
насілі яго ікону,
вусаты яго партрэт...
Калышам свае ўспаміны,
уласнікі чорных дзір:
руіны
вялікай краіны
пакінуў народу кумір.
Высвечваем ґозіркам рупным,
куды нам ісці чарга:
адна нага —
у наступным,
у друзе —
другая нага...
Пакутуем ад бяссоння,
боль невыносны пячэ:
тое, што маем сёння,
на што памяняем яшчэ?



Не ведаюць людзі,
што заўтра будзе,
Як сваю будучыню абняць...
Маўчаць прарабы на шчасцябудзе,
Толькі нямоўчныя кельмы звіняць.
То ўлева, то ўправа вятры нас гайдаюць.
Перабудоўваючы свой дом,
Людзі пытаюць, людзі гадаюць,
Што іх чакае, —
Рай ці садом?
Няма ў сваёй Айчыны прарокаў,
Ты па напятым канаце ў жыцці
Ад камянёў падмурка да крокваў
Адлеласць нясцерпную мусіш прайсці.
Што [illegible] там ні стала, а мы пакорым
Шматпавярховую вышыню,
Каб не глядзелі на нас з дакорам
Зоркі, што кратаем упершыню.

* * *

Да нас даходзіць пакрысе,
Што жыхары зямлі, мы ўсе,
Ахвяры і астрожнікі, —
Чарнобыля заложнікі.
Хлапчук на цацачным кані
Гукае:
— Дожджык, секані!
Чакай, пастой, не трэба, —
Смерць навісае з неба!
Нагбом з глінянага гляка
Глынуўшы слодыч малака,
Не ведаеш, абуджаны,
Што ты на скон асуджаны...
Цябе шукаў так доўга я,
Сунічка, ягадка мая, —
З пякучым болем думаю, —
Не набліжай бяду маю.
Палі і дрэвы, што здаля,
Красою зрок варожыце,
У змове неба і зямля
Глядзяць на нас з варожасцю.
А вы, гаспадары жуды,
Жрацы прастола тленнага,
Пра што вы думалі тады,
Да выбуху страшэннага?

* * *

Уздрыгну часамі яшчэ,
Калі дакрануся паглядам
Да той, што душу апячэ
Хадою і боскім ладам.
І я ўжо ступаю лягчэй.
І чорцікі ў зрэнках скачуць:
Ноша зляцела з плячэй,
Каб долю маю перайначыць!
І я вырастаю, як стоўп, —
Чупрына аблокі чапае!
Хвіля —
І згубны натоўп
Цябе ў сваю бездань хапае.
Мяне на маёй вышыні
Такая журба агарнула:
Ты ж у людской быстрыні
Навек для мяне патанула...
Ах, як я прыгнечаны быў:
Не я, а вятрыска распусны
Твае валасы церабіў
І цалаваў твае вусны.

## *Знак забароны*

Слова мудрасці зверху ўронена —
І званы загулі на зямлі.
Шыльды з надпісам «забаронена»
Стрымгалоў марафон пачалі.

Іх прыб'юць, іх прышпіляць,
прылепяць
Так трывала, што не скрануць.
Калі бачыш ты —
Вочы аслепяць,
Калі чуеш ты —
Вушы заткнуць...

Што вы робіце —
Дзе рыбачыце,
Скалануўшы ваду няўзнак?
Вы куды?
Па грыбы?
Ці не бачыце, —
Забароны дзяржаўны знак!

Пасадзіць вы саджанцы хочаце,
Каб спакуслівы выспеліць плод.
Але як, але як пераскочыце
Забароны садовы плот?

Свайму крэслу служачы нехаць,
Вы збіраецеся на фэст...
Стоп! Куды вы памкнуліся ехаць?
Забаронены выезд і ўезд!
Як у родным сваім палоне нам
Забароны ўсе пераджыць?
Забаронена, забаронена
І тужыць, і кахаць, і дружыць.

О, саноўныя забароны!
Забаронены карані.
Ну, а як жа, скажыце, кроны?
Нам ківаюць яны з вышыні.

* * *

Цэлячы позірк верны,
Убачыце жабрака,
Калі ў вас мядзяк мізэрны
Дрыготная просіць рука.
Душу падмывае заенчыць
(Адзіная ўсё ж мы сям'я!), —
Не ведаю, хто гэта кленчыць, —
Бяздомны нябога ці я?
Балюча, калі жабрачыць
Хоць нехта з пароды людской.
А як жа краіну бачыць
З працягнутаю рукой?
Ад немачы вылечыць, можа,
Спагада і дабрата?
Забыўшы былое бязбожжа,
Аб міласці молім Хрыста.
Спявалі, ніхто ў нас не лішні,
Хаваючы ў сэрцы журбу...
Дык хай жа хаця [illegible] Усявышні
Паслухае нашу мальбу.
Ах, як нам уцяміць, дарэчы,
Які ж у нас век на двары?
Мы — дзеці адзінай галечы, —
І хто падае́, і бярэ.
Перад бяздоннаю ямаю
Відушчасць і мы набылі,
Мы, самыя, самыя, самыя,
На ўсёй шматаблічнай зямлі...
Дзяржава бязмежнага брацтва,
Што брала вышынь рубяжы,
Як ты дайшла да жабрацтва,
Людзям сваім адкажы!

* * *

Галоўнае ў свеце, мабыць,
Прывабіць, хоць нечым прывабіць.
Прывабіць хадой такою,
Якая палёту роўня,
Усмешкаю трапяткою,
Срэбнапраменнай, як поўня.
Заранкавым ззяннем на твары,
Дзе гонар і покліч у спайцы...
Абцасікі па тратуары, —
Нібы па клавішах пальцы.
Не менш, як багіня звонку,
Красуня прывабнасці рэдкай.
Забыўшы на кодэкс і жонку,
Бегчы гатоў за гэткай!

# *Твар і душа*

Як непазбыўную лепшую вартасць
Мне ў спадчыну продкі перадалі:
Мову — ад маці,
Ад бацькі — упартасць,
Трываласць ахвярную —
Ад зямлі.

Я ад людзей хавацца не стану:
Камень за пазухай не нашу!
Чадрою туману,
Чадрою падману
Не захіну ні твар, ні душу.

Адчуць незагойны мой боль Курапаты,
Народа майго пакалечаны лёс
Не замінае ні нос кірпаты,
Ні нос [illegible] гарбінкай — арліны лёс.

Адлегласць паміж краінамі менее,
Праз акіян рукі свае
Людзі працягвалі да Арменіі,
Калі скаланула смяротна яе.

Ах, як нас заводзіць яшчэ маторнасць,
Як шрубак і вінцікаў гулкіх падзей!
Люблю чалавечую непаўторнасць
У кожным сабраце з пароды людзей.

У грамаду нас сваяцтва кліча:
Жывіце, людзі, душа ў душу,
Ды не губляйце свайго аблічча,
Не трацце твараў, я вас прашу!

Нам адкрывае спрадвечнае, звычнае
Сваю шматкалёрную прыгажосць.

Дзякуй, жыццё наша многаабліччнае,
За тое, што ты такое, як ёсць!

Дык не спрачайцеся ваяўніча
Аб тым, што потым, а што спярша...
Нацыянальнасць —
Маё абліччча,
А чалавечнасць —
Мая душа.

## *Доля мая талонная*

К д'яблу слодыч патрэб спаталёных!
Як мы дыхаем?
Па талонах.
Штосьці доля ў душы прышчаміла —
так шчыміць, так баліць, што жуда!
Па талонах —
цукар і мыла,
па талонах —
вада і бяда.
Што вам бачыцца ўранку туманна,
незалежна, кастрычнік ці май?
Па талонах —
нябесная манна,
калі хочацца, атрымай!
Сталі ўсе цнатліўцы распуснымі,
як патрапілі ў віражы.
Я цягнуся да любай вуснамі,
а яна мне:
— Талон пакажы!
Абавязкаў
важкая вязка,
дум і вечных трывог кругаверць,
па талонах —
спагада і ласка,
па талонах —
жыццё і смерць...
Каб вярнуўся ў боскае лона я,
дай мне позву, таварыш Хрыстос.
Ах ты, доля мая талонная,
мой талонна адмераны лёс!

## *Дубы*

Хвалю я моц дубоў апетых!
Ды ці няма маёй віны,
Што і ў дзяржаўных кабінетах
Укараніліся яны?
Дарэмна кленчыць просьбіт скрушны
Прад імі, — што там ні было б, —
Як і заўсёды, раўнадушны
Дубовы твар, дубовы лоб.
Куды нацэльваюць указкі,
Павек не ўцяміш — не гадай.
Ад іх не прычакаеш ласкі,
Хоць перад імі дуба дай!
Пакуль інструкцыяй глянцуюць
Паверхню справы і стала,
Пад імі цвёрды грунт мацуюць
І рабалепства, і хвала.
Няхай, парваўшы дамбу, рушыць
Патоп у далі палявой,
Саноўны дуб не паварушыць
Сваёй дубовай галавой.
Ідзе дасюль у наступленне
Пад барабанны гром клікуш
Усеагульнае дубленне,
Дубленне скур, дубленне душ.
О, згубны крок штукарстваў гэтых
Трывожыць мёртвых і жывых,
Што больш дубоў у кабінетах,
Чым у дубровах векавых!
На прывідным гігантабудзе,
Як на дražджах, дуб'ё расло...
Дык ці ж бясконца гэтак будзе,
Як ёсць, як столькі год было?
Паверце ў рух перабудовы,
Калі народ устаў гарой,

Мы перароблм лад дубовы
На новы чалавечы крой.
Дубы ж ламаюцца, не гнуцца.
І як ні хукай, як ні дзьмі,
Дубы дубамі застануцца,
Дубы не зробяцца людзьмі.

## *Лодка без вясла*

Дароў, каб мы рыбачылі,
Нам рэчка прыпасла.
Ды мы ў смузе не бачылі,
Што лодка без вясла.
Заглядваліся ў далечы:
На роўнядзі ракі,
За кругам круг гайдаючы,
Скакалі паплаўкі...
Гадалі і прыкідвалі,
Клюе ці не клюе,
І зноў, і зноў закідвалі
Мы вудачкі свае!
Пакуль улоў узважвалі,
Марудна цыркаў час,
Ах, мы і не заўважылі,
Куды занесла нас.
Пра тое, што паводдалі,
Забылі весляры, —
І здрадлівыя водмелі,
І згубныя віры.
Вы толькі не спазніцеся
Зрабіць круты рывок
З адчайнай хваткай віцязя —
Ад бездані за крок!

* * *

Калі дом аддавалі на злом,
Нават мэбля ўзняла паўстанне.
Стул жа так і не стаў сталом,
Раскладушка тахтой не стане.
Што такое пераварот?
Гэта ўсё дагары нагамі:
Зацiскайся ў нару, як крот,
Перад долькай свінца ў нагане.
Але знойдуць усюды вас
Усёбачныя дулаў зрэнкі,
Не спазніўшыся, карны бас
Вас паставіць на месца:
— Да сценкі!
Забываючы на правы,
Невядома, каму на гора,
Плуг ад поля,
Каса ад травы
Стрымгалоў уцякалі —
За мора...
Ад ратоў аддзялілі хлеб,
У калосся забралі зерне,
З рук аратага выбілі цэп...
Хто на месцы свае іх верне?
Палахліва маўчым ці крычым
Ад прыцэльнага слоўнага шроту.
Але так і астаўся нічым,
Хто нічым быў да перавароту.

* * *

І цяпер пры сустрэчы з табой
Здрыганецца душа яшчэ,
І такою шчымлівай жальбой,
Нібы марнай журбой, апячэ.
Не гукаю:
— Спыніся, міг!
Што загублена, не вярну.
Птушкі мрояў маіх і тваіх
Паляцелі шукаць вясну.
Я ўжо болей не рызыкант.
На плячах у цябе павіс,
Як аблашчаны акупант,
Неадчэпны і рыжы ліс.
Мы пілі маладосці віно,
І світаў твой замглёны пагляд.
Ах, як гэта было даўно —
Два жыцці, два вякі назад.

* * *

Мне гаварылі, не ўцячэ
Жаданы скарб, што мне належыць
Усё наперадзе яшчэ —
Гады акраец мне адрэжуць.
І я, аматар галубоў,
Адданы дробязным турботам,
Свае здзяйсненні і любоў
Адкладваў з лёгкасцю на потым.
Нібы гуляў у паддаўкі
З аравою нячыстых духаў.
Мільгалі дні, як цягнікі, —
Я покліч іх гудкоў не слухаў.
Я прыдушу сваю слязу
Па скарбах тых часін, якія
Разменьваў, нібы драбязу,
Спазнаўшы норавы людскія.
Кране, нібы раптоўны нож,
Малітва губы чалавеку:
О Божа праведны, памнож
Надзел адведзенага веку!
Хай доля часам у дугу
Згінала, але не зламала.
Яшчэ я ў стольківх у даўгу,
А часу так нясцерпна мала.

* * *

У Хрыстовых пакутах жыві,
Паслухмяна памры і ўваскрэсні
У імя чалавечай любві —
Благаславёнай нябёсамі песні.
Свае будныя славячы дні,
Паўтаралі мы трубныя строфы.
Як да светлае вышыні,
Дружна крочылі да Галгофы.
Краты ў вокнах былі канвой
Для высокіх лятункаў і мрояў,
Неадступна ахоўваў канвой
Самых лепшых сваіх герояў.
Лёс нам выпаў сляпы і глухі:
Як і іншых, сябе мы згубілі.
Божа мілы, даруй нам грахі,
Ці ж мы ведалі, што рабілі?

* * *

Адчуць сябе падданым Бога,
Паўпрэдам праўды і надзей
І помніць,
Што твая дарога
Губляецца сярод людзей,
Дзе гэтак лёгка растварыцца,
Калі захлiствае прыбой,
Гудзе стыхія,
Як царыца,
Што валадарыць над табой.
Схавай у сэрцы незалежнасць,
Ты паслухмяна, як і ўсе,
Не можаш сам сабе належаць:
Плыві туды, куды нясе!
Аддай сваю душу абшару,
Як Бога, бліжняга любі
І толькі твару,
Свайго твару
Ты не згубі,
Не загубі.
Ратуй сябе ад гэтай згубы,
І нават перад алтаром,
Калі малітву шэпчуць губы,
Свой воблік не ўтапі суздром...
Не страціў твар — і ты вялікі,
Хоць і маленечкі такі.
Глядзяць з ікон святыя лікі —
Твайго аблічча двайнікі.

* * *

Яшчэ так мала набралі зорак
У невады
Мае гады,
Пакуль не вечар, а надвячорак,
Яшчэ гарцуе мой дзень гняды.
З душы здыму я,
Як партупею,
Няцерпны пояс яе тугі.
Яшчэ паспею,
Яшчэ паспею
Зямлі і людзям
Аддаць даўгі.
Павінен любай я столькі ласкі
(Каб адчужэння лядок не рос!),
Галодным — хлеба,
Унукам — казкі,
Засмяглым тварам — каралі рос.
Даўжнік я Прыпяці і Байкала.
Цягнуся думкаю дзень пры дні
Я да Байкала,
Як да бакала
Гаючай свежасці і чысціні.
Не, не ўцяку я адсюль, як заяц,
За той ратоўны глухі рубеж,
Я памалюся:
Яшчэ акраец,
Мой Бог, ад вечнасці мне адрэж!
Маладзіковы блішчыць сцізорык,
Працяўшы цемру ў маім акне.
Пакуль не вечар, а надвячорак,
У дзверы стукайце да мяне.



І ў ранні час, і ў час вячэрні
Мужы і жонкі дзень пры дні
Выстойваюць цярпліва чэргі
Кіламетровай даўжыні.

Схаваць не ў сіле выгляд посны,
Яны пазіцый не здаюць.
І я пытаю, хто апошні,
Хаця не знаю, што даюць.

Жадання ўласнага ахвяры,
Мы тоўпімся ў жывой вадзе,
За крок ад запаветнай мары
Мы топімся ў сваёй бядзе.

І хоць у чэргаў хвост павіны,
А ногі ў нас цяжэй свінца,
Мы ўсё-ткі выстаяць павінны,
Што б там ні стала, — да канца!

І я з упартасцю жалезнай
(Па праўду, а не па шмаццё!)
У чарадзе жыцця даўжэзнай
Гатоў стаяць усё жыццё.

## *Няскончаная балада*

Воляю самадзержца
Распяты на крыжы
Выгукнуў енк сэрца:
— Божа, цара беражы!..

О, незлічоныя клічнікі
Веры вякоў і пакут!
Дзяржаўна вяршылі апрычнікі
Свой самапраўны суд.

Гвалтоўныя сейбіты страху,
Валадары тапара
Леглі і самі на плаху
З боскае ласкі цара.

Званы даўніны адзванілі,
Званіца — без званара.
Гады штармавыя змянілі
Цара на правадыра.

Нядрэмныя, як пагранічнікі,
Вочы і вушы зямлі —
Сталінскія апрычнікі
Царскіх пераўзышлі...

Уздрыгвалі плошчы і твары
Ад ляманту аднаго —
Стогорла ўслаўлялі ахвяры
Вярхоўнага ката свайго.

З воч пеляну махлярскую
Скінуць, нарэшце, пара:
Не меншай была за царскую
Ласка правадыра.

Хоць промнем прасекі прасвечвае
Эра мая, як тайга,
Кагосьці гняце авечая
Па бізуне туга.

Яшчэ святкаваць рана
Бег жыццядзейнай арбы:
Укленчыць ценям тырана
Рады і сёння рабы.

Страшней ад занесенай брытвы
Апрычніны міражы.
Як водгук няскончанай бітвы,
Мне чуецца лепет малітвы:
— Божа, цара беражы...

* * *

Ах, вы хадзіць разлюбілі,
Вам ног дарагіх шкада?
На ўласным аўтамабілі
Хоць на край свету — гайда!
Вядома, што вы не ўседзіце,
Калі сусед за рулём.
Едзеце,
Едзеце,
Едзеце
Не меней як каралём!
Калі рука на баранцы,
Пад коламі дол шыпіць:
Ногі, як утрыманцы,
Не хочуць і кроку ступіць.
Вецер-ліхач не ўгоніцца,
Калі паскараеш разлёт,
Гледзячы скоса, староніцца,
Дарогу дае народ.
Трубна маторам та́кай,
Паветра хуткасцю рэж,
Газаваю атакай
Упартыя вёрсты бярэш!
Ты ўжо ляціш, як пташка,
Маланкавай хуткасці муж.
Чаму ж гэтак дышыцца цяжка,
Чаму ж,
Чаму ж,
Чаму ж?

* * *

Ці таўстасум ты, ці сярмяжнік,
А на жыцці адзін мандат.
Твой чалавечы век —
Працяжнік
Між дзвюх абавязковых дат.
Дык не ўпусці блакітнай птушкі
Сваёй удачы і любві,
І покуль не замкнуцца дужкі,
Хвілінай кожнаю жыві.

## *Сем кароў худых*

І сёння займае дых
паданне даўняй нядзелі,
як сем кароў худых
гэтулькі ж сытых з'елі...
Верылі, будзе павек
доўжыцца ў статкавым гаме
свята малочных рэк
з кісельнымі берагамі.
У стаднай краіне двара
дагэтуль не перасталі
рычаць пераможцы «ўра»,
хоць сытымі самі не сталі.
Падсілкавацца раса
кароў на мурог запрасіла,
але прагрэсу каса
траву ўжо дашчэнту скасіла.
Калі ж у іх на вачах
спякота пажэрла віку,
адразу, адразу ачах
градус кароўега рыку...
Да канюшыны тады
па бездаражы бясконцай
падаўся статак худы,
а ў канюшыне — стронцый...
Ці вырасцім да зімы
тое, што вырвалі з корнем?
Чым жа, нарэшце, мы
буронак галодных накормім?

* * *

Я адчуваў, што ты ўжо не мая,
Хоць ты яшчэ была са мною поруч.
Але мацней ад гэтага ўдвая
Душу сціскала абцугамі горыч.

Чаму, выратавальная адкрытасць,
Да нас ты не прыходзіла раней?
Нашто твая паблажлівая літасць,
Якая мне ад лютасці страшней!

Сябе самога не перарабіць:
Забраўшы ўсё, ты пакідаеш крошку...
Навошта забіваць мяне патрошку?
Хіба не лепш адным рыўком забіць!

* * *

У нязбытнае верыць ахвочы,
Будавалі свой цуд нездарма...
Але сталі відушчымі вочы:
Божа праведны, дома няма!
Ах, з якой мы паходзім быліны?
Мы, руйнуючы свет стары,
Клалі ў велічны прывід цагліны
На дзяржаўным сваім пустыры.
Хто апранены ў дзіры, хто босы, —
Але секлі ўсіх спакваля
Бізунамі дажджоў —
Нябёсы,
Бізунамі канвойных —
Зямля.
Грызлі дол з упартасцю крота,
Гадавалі свае гарбы,
Пад аховай калючага дроту
Паўтараючы:
— Мы — не рабы...
І была для нас, як аздоба,
Вера ў тое, што мы ля руля,
Што астрожная наша роба
Даражэй, як убор караля...
Ярка ўспыхнула тое, што тлела,
Загудзеў наш айчынны ачаг,
Пасвятлела і прасвятлела, —
Быццам брытваю па вачах!
Мы бунтуем,
Душой лямантуем
Да знямогі, да высахлых слёз.
Судна долю сваю рамантуем,
Гераічна цыруем лёс.

* * *

Скібіну праўды голай
Век наш, нарэшце, даў нам:
Я гавару вам уголас
Тое, што думаў нядаўна.
Працуюць галовы і глоткі.
Хоць будзіць у некага млоснасць,
А ўсё-ткі,
А ўсё-ткі,
А ўсё-ткі
Зямлю калыхае галоснасць!
Тое, што ў сэрцы хавалі,
Што вас і цяпер даймае,
Галоснасць на дрогкай хвалі
З таемных глыбінь уздымае...
Галоснасць — як лекі хворым,
Мы, спозненыя героі,
Не проста гаворым,
Творым,
Селімся ў доме мроі.
Прышпорваю, як варанога,
Слова, што ўчора кілзалі.
Уперадзе — вёрст многа:
Галоўнага не сказалі!
Якая ўтрымае варта,
Калі ўжо крок ад бяздоння?
... Я вам скажу заўтра
Тое, што думаю сёння.

* * *

Нарэшце і я пакратаю,
Як прывідны цуд, дэмакратыю!
Розумам штосьці схоплена,
А што —
Не магу разабрацца.
Столькі ў душы патоплена
Парой непарушнага брацтва!
Думы перабудоўваю
Пад знакам сярпа і молата:
Бывай,
Немата шматгадовая,
Бывай, і маўчанне — золата!
Хвалі людскія акропяць
Галоўную плошчу табунна,
Бач, і мяне падхопяць...
Не верыцца:
Я і трыбуна!
Мовім,
Нібы варожым,
Тым сабе хоць бы суцешце,
Што без аглядкі можам
Выгаварыцца нарэшце.
Гаворым на ноце шчырай:
Нашы нядаўнія страхі
У незваротны вырай
Ляцяць, нібы чорныя птахі.
Навошта хаваць выбухова
Маўчання свайго ўзрыўчатку?
Праўда бярэ слова,
Якое было спачатку.



* * *

Што я адчуваю
На жніве ўжо, а не на сяўбе?
Што я адчуваю?
Ушчуваю
Не сваё былое, а сябе.
Сеялі наспех —
Рукой крутою
Зерне сталі...
Што ўзысці магло?
Зразумелі:
Сеялі не тое!
А сягоння пажынаем зло.
Вернуты імёны дарагія
Тых, што ўпалі ад айчынных куль.
Ці ж лягчэй, што сеялі другія?
Несці нам снапоў нязносны куль.
Нас штарміць ад самага прычала.
Паглядзім жа шчыра праўдзе ў твар:
Большасць, большасць,
што ж ты прамаўчала?
Катаў было меней, чым ахвяр.

## *Вярнуць гаспадара*

Шумім, шумім: даўно пара
Вярнуць зямлі гаспадара.
Карміцель,
Адгукніся,
Да глебы дакраніся!

Асаматнелая ралля
Журбою далеч росіць,
Як сірата,
Як немаўля,
Тваёй лагоды просіць.

Мы сейбіта і плугара
Нанова палюбілі...
Ды як вярнуць гаспадара,
Калі яго забілі!

Не разлучыць людзей з людзьмі,
Хоць паміж нас заслоны...
Мы молім, сейбіт, накармі:
Нас мала —
Нас мільёны.

Збавення ў Бога на Русі
Спрадвек прасілі душы.
Дык уратуй, уваскрасі
І нас, усёвідушчы!

Рабам сваіх зямных патрэб,
Што ў храм закрылі дзверы,
Вярні надзённы жытні хлеб
Любві,
Надзеі,
Веры.

Скажы нам, як жыццё ўдыхнуць
У тое, што забылі...
Ах, як гаспадара вярнуць,
Калі яго забілі!

За што на віражах крутых
Прыроду пакаралі?
А тых, хто пакараў, а тых
Дасюль не пакаралі.

* * *

Раблю я тое, што магу.
Але чаму ж пры гэтым
Усё жыццё сваё ў даўгу
Я перад цэлым светам?
Хвалююся я, Сын зямлі:
Як страх яна пазбудзе?
Даўжнік я тых, што тут былі,
І тых, хто заўтра будзе.
Прад бацькам я сваім даўжнік,
Прад тым, што, як бадзяга,
У цемрадзі таежнай знік
На астравах Гулага.
Дасюль я не закалыхаў
Жуду часіны слёзнай,
Як пыл чарнобыльскі ўдыхаў
Унук мой з хмары грознай.
Я верны хлебнай баразне.
Чаму ж уся Айчына
Глядзіць з дакорам на мяне
Галоднымі вачыма?
Абрушваеш, зямля мая,
Лавінаю навіны, —
І зноўку вінаваты я,
І зноўку штосьці вінны.
Калі ж вярну свае даўгі?
Я б'юся ў муках сталых.
Акамянелыя багі
Маўчаць на п'едэсталах.

## *Чаму пажар не тушаць*

Падскочыў лёгка —
ад зямлі да стрэхі —
агонь,
рухавы трапяткі звярок,
затанцаваў ад лютае пацехі,
раскроіўшы нажом чырвоным змрок.
І ноч — як дзень.
Відовішча якое!
І людзі,
пакідаючы жытло,
злятаюцца гурмою гаманкою,
як матылькі,
на страшнае святло.
Бязлітасны знішчальнік сцены крушыць,
здаецца ўжо,
гарыць зямля сама.
Гул галасоў:
— Чаму агонь не тушаць?
— Чаму дасюль пажарнікаў няма?
Як дружна вы махаеце рукамі!
А ці ж не вы — віноўнікі бяды?
Агонь шугае да нябёс рыўкамі.
Ах, вось бы кожны —
па вядру вады!

## *Споведзь ката*

Галоснасць надзеяй поіць
Цяпер,
Калі ў думках — страка́та.
Малю вас,
Паслухайце споведзь
Ужо адстаўнога ка́та.
Прызванню не страціўшы вернасць,
Пакінуў кагорту байцоў я.
Сёння для вас —
Міласэрнасць,
А для мяне —
Беспрацоўе...
Дзе яна,
Ваша спагада?
Курчаць душу мне мукі.
Дотыкам да прыклада
Трызняць мае рукі.
Ці ж я не ладзіў з вамі?
Была ў нас поўная згода:
Я нішчыў, каго вы звалі
Ворагамі народа.
Глытаў з палыновай чашы
Я не без вашай ласкі.
Ці ж не пад воплескі вашы
Выконваў свае абавязкі?
Калі я ў мішэнь без малення
Цэліў свінцовыя зрэнкі,
Чуліся мне
захапленне
Тысячагорлыя енкі.
Караў я ў святым парыванні,
Каб здзейсніць абрад духоўны:
Гэтак жа, як і над вамі,
Стаяў нада мной Вярхоўны...

Матухну-праўду рэжце,
Выносячы вырак падспудны:
Што ж гэта маем, нарэшце,
Вы — суддзі: а я — падсудны?
Падзенне маё паўторыце,
Ахвяры сляпой хімеры,
Калі і мяне прыгаворыце
Вы да вышэйшай меры.

* * *

Учора яшчэ ў бубны
Білі вярхоў падпявалы,
Учора іх голас трубны
Славіў уздым небывалы...
Выглядваюць сёння ў здранцвенні
З мінулага, нібы з пушчы,
Раптоўна прыйшло празарэнне,
Кожны з іх стаў відушчы.
І раз ужо бубны не ў модзе,
Яны, як бывалыя людзі,
З хваляю часу ў згодзе
Б'юць з пакаяннем у грудзі.
Сеючы семя пустое,
Стаць неадкладна гатовы
Асіплыя барды застою
Героямі перабудовы.
Іх богабаязныя лікі
Не зморшчыць сумлення допыт:
Маюць яны вялікі
У перабудове вопыт...
Яны ўлагодзяць любога,
Павесяць яго ікону,
Калі на пасаду бога
Уссядзе паводле закону.
Хапаючы ўдачу за грыву,
Страты перабядуюць,
Сябе з дапамогай грыму
Мігам перабудуюць.
Яны ў парыванні грубым
Развважаць пад слоўны вэрхал:
Чаму б і не стаць праўдалюбам,
Калі націскаюць зверху?
І, чуеце, пра міласэрнасць
Вяшчае тыран дамашні,

Праўдзе высокай вернасць
Бароніць махляр учарашні.
Ах, хіба сягоння да твару
Мінулым сябе непакоіць? —
Усмешкай сваю ахвяру
Кат адстаўны гоіць.
Пра перамены кніжку
Гартае старанна не ў меру —
І гладзіць ласкава ў зацішку
Улады былой сякеру.

* * *

На падворку пыл збываюць
У законны выхадны!
Выбіваюць,
Выбіваюць,
Выбіваюць дываны.
Зачасцілі,
Зачасцілі —
Як цапамі ўсё адно...
Столькі пылу напусцілі,
Што і твараў не відно.
Прагну я прывеціць брата,
Падаю здаля руку,
Але вушы
                з пылу вата
Залажыла бедаку.
Ад світанку да паўночы
Вісне хмараю цяжкой,
Слепіць вокны, рэжа вочы
Пыл заможнасці людской...
Калі пыл змагу адужаць,
Як дзіця, дыван вазьму...
Хто каму, нарэшце, служыць,
Мне дыван ці я яму?
Я чамусьці вінавата
Разважаю зноў і зноў
Можа, пылу мнагавата,
Можа, многа дываноў?
На падворку пыл збываюць,
Бухаюць, нібы ў званы.
Выбіваюць, выбіваюць,
Выбіваюць дываны.



Усе мы, хто жыццю жадзён,
Бяром адлегласці таропка,
Ад першых да апошніх дзён...
За крокам крок. За кропкай кропка.

Каб нас люляла вышыня,
Выходзім з маладой маліны.
І, падрастаючы штодня,
Усё-ткі чуемся малымі.

Я на кійку, як на кані,
Гайдаўся жэўжыкам не марна,
Галёкаў: «Дождждык, секані!..»
І вось гляджу на неба хмарна.

Мудрэц вучоны, як дзіця,
Вяшчае лепетам пявучым...
Ах, гэта азбука жыцця,
Якую з веку ў век мы вучым!

Экспрэс сучаснасці — прагрэс,
Сваe раскручваючы колы,
Прастуеш ці не ў цёмны лес,
Дзе ні адной пчалінай школы?

Куды сягоння мы зайшлі,
Пара як след, нарэшце, змераць,
Пакуль і небу і зямлі
Яшчэ не перасталі верыць.
Мы казкай лучымся з былым,
Калі ўздымаў людзей за хмары
Чароўны самалёт-кілім,
Што ткалі продкі з нітак мары.

Стаптаўшы роднасці радно,
Ламаем і сягоння коп'і,
Якіх ужо няма даўно...
Жыццё — бясконцае шматкроп'е.

* * *

Навальніца ў пачатку мая, —
Як вяселле, што ўсіх займае.
Нечувана грымотная вестка:
Гром — жаніх,
А маланка — нявеста!
Бабы ў белым —
Цікаўныя вішні
Цэлым садам на вуліцы выйшлі.
Дрэвы іншыя валам валяць —
Шапацяць, абгаворваюць, хваляць.
— Вы пабачце, якая нявеста!
— З адмысловага злеплена цеста...
— Мусіць, будзе добраю жонкаю.
— Толькі талія надта тонкая...
— Сохнем мы, як аб любым тужым.
— Стане ладнай за добрым мужам...
Каб вясельнае свята адзначыць,
Танец дружна дажджынкі скачуць,
Або ўпрысядкі, або падскокам,
Дол, як бубен, пад звонкім крокам...
Пашкадуеш, што ты не падлетак,
Той, які неўпрыкметку гэтак
З дому босы сігае вонкі —
За дажджынкамі наўздагонкі.
Будзе жыта і будзе пшаніца,
Будзе бохан — кожнаму дому,
Калі ў маі шуміць навальніца,
Як вяселле маланкі і грому.

* * *

Несціхана вядуць размовы
Стол пасадны
І стол пісьмовы.
Стол пісьмовы
Гаворыць:
— Грашу!
Стол пасадны
Гаворыць:
— Вяршу!
У спаборніцтве — два словы,
Мае кожнае з іх вагу,
Мае кожнае сэнс адмысловы.
І, вядома, сваю чаргу...
Налятае вецер пасатны —
І хістаецца стол пасадны,
Мы ў чаканні цярпліва маўчым,
Стол пісьмовы стаіць як ні ў чым.

Што бывае падманлівай ціша,
Скажа вам каранарны сасуд...
Хтосьці думае,
Хтосьці піша,
Хтосьці моўчкі выносіць прысуд.
Мы лісты сваёй долі гартаем,
Мы ў сябе і ў нашчадкаў пытаем:
За якім уссядаць сталом
У змаганні дабра са злом?

## *Думныя дзеці Паміра*

Праз далечы я і ты
Рукі працягваем шчыра,
Гаворым:
— Дзень добры, браты,
Думныя дзеці Паміра!
У бойках за вольнасць зямлі,
Не здрыгануўшыся ў горы,
Выстаяць вы змаглі,
Як непахісныя горы.
Перад пагрозай бяды
Пільна трымалі таджыкі
Напагатове заўжды
Каменных вяршыняў пікі.
Людзям з далечыні
Свецяць — туман ці пагода —
І Рудакі, і Айні,
Вышыні свайго народа.
Сярод запрэжаных рэк
У шэрагу першых па праву
Круціць турбіны Нурэк,
Працуе Радзіме на славу.
Загрудкі з плынню вады
Дадзена дужым брацца,
Каб неслі ў дамы правады
Святло чалавечага братцва.
У радасці і ў нудзе
Спасцігнулі мудрасць таджыкі:
З сябрамі ў адной грамадзе
Кожны народ вялікі!



Усё яшчэ трошкі смуткую,
Хоць бедаваў калісьці.
Ты — за ракою, якую
Мне ўжо не пераплысці.
Спярша будаваў я лодку,
Каб веславаць у далі.
Але яе ў паводку
Перакулілі хвалі.
Думаў, яшчэ вярнуся
Я па разведзеным мосце.
Верыў, яшчэ дакрануся
Да берага маладосці.
У плыні віры кружаць:
Я — злева, а ты — справа...
Мне ўжо цябе не адужаць,
Лёсу майго пераправа.
Чую ў душы шматгалоссе:
Было, ды не адбылося.
Стукаю сэрцам у дзверы
Любові,
Надзеі
І Веры.

## *Зялёная аптэка*

Гаі, калі ласка,
хваробы свае!

Зёлкі і травы —
Ратоўныя лекі
Прадмесце Траецкае выдае
Знямоглым
Рукамі зялёнай аптэкі.
Бачыш,
З зярняткамі горкімі струк?
Ад рабалепнай ліслівасці лечыць
Тых, хто прад моцным згінаецца ў крук,
Пакораю душы свае нявечыць.
І хай ад спалоху цябе не трасе,
Што зелле пякучае, як атрута.
Выратаванне яно нясе:
Мята — ад пыхі,
Ад зайздрасці — рута!
Калі ж бракуе ў цябе дабрыні,
Калі на душэўную чэрствасць хварэеш,
Лыжку настою шыпшыны глыні,
І сам не заўважыш, як падабрэеш...
Кліча аптэка:
— Пакуль выдаю,
Прымайце зёлкі мае, як замову
Ад забыцця на матулю сваю,
Ад забыцця на родную мову!
Каб дзеці і саджанцы спорна раслі,
Болі свае і грахі не лічыце,
Дотыкам да бацькоўскай зямлі
Вы іх
Лячыце,
Лячыце,
Лячыце,
Чуеш, землячка,

Штодзённа заходзь,
Каб уваскрэснуць душою навекі,
Хоць бы на хвілю, хоць мімаходзь
У велічны храм зялёнай аптэкі!

* * *

Нам казалі, што мы цагліны,
Што сябе мы павінны пакласці
У будову вялікай краіны,
У падмурак людскога шчасця.
Што казалі, таму і верылі,
Невымернаю вераю мералі
Мы адлеглясць да светлай мары,
Той, якую не засцяць хмары.
А каб ворагі нас не кралі,
Вокны мы заштрыхоўвалі кратамі,
Свой палац, што ўздымаўся дотам,
Спавівалі калючым дротам...
Дзе мы ўсе, не магу разабрацца,
Я, падданы цагельнага брацтва,
Мур спрабую рассунуць рукамі,
Каб дастаць з-за пазухі камень...
Словы трызняцца несвядома:
Што мне гэтак у сэрцы коле?
Гэта судная трэшчына дома
Мне баліць, мне смыліць як ніколі.
Ці раскажа чырвоная цэгла,
Знітаваная кроўю ў сценах,
Колькі нас ахвярна палегла, —
І вядомых, і безыменных.
Мы, народжаныя ў мундзіры,
Гадаванцы казарменных клетак,
Што пакінем у спадчыну? Дзіры!
Божа праведны, як жа гэтак?

# *Рок*

Сцэна, што ў даўкім дыме,
Як прывіднае папялішча,
На звар'яцелым уздыме
Вые, галосіць і свішча...
Красуні з галовамі босымі,
Што нотку адну закілзалі,
Барды ахрыплыя босамі
Над тымі, што млеюць у залі,
У бездань бяздумнасці крок —
Рок...
Аголеныя разлічана,
Дрыгаюць, як у вары.
Дзеўчынкі, дзе вашы ліфчыкі?
Хлопчыкі, дзе вашы твары?
Выглядваюць з кудзераў пудзеля
Страчаных твараў плямы.
Ах, маляваныя пудзілы,
Вас не пазналі б і мамы!..
У змрок утапіўшы аблічча,
Пра апакаліпсіс мармыча
Асалавелы прарок —
Яго безаблічнасць
Рок...
Ходырам зала ходзіць —
Тупат на ўсю рэспубліку.
Заводзіць,
Заводзіць,
Заводзіць
Кумір ачмурэлую публіку.
Вяшчае, нібы з амбона,
Пясняр —
Увенчаны стоўп,
Яму падвывае стозвонна
Не публіка ўжо, а натоўп...

Па нервах ударны рокат
Бухае, як абух,
І мне ўжо здаецца, ад року
Нават Бетховен аглух.
Уладна працягвае весці,
Здымаючы з душ аброк,
Сваё нечуванае шэсце
Рок,
Рок,
Рок.
Ды музыка не пахавана —
Вечны жыцця акорд.
Хто абароніць Бетховена
Ад націску рок-орд?

# *Роздум пастушыны*

Я — ваш пастух, авечкі,
Я — вам амаль за татку:
Пасіцеся каля рэчкі
У згуртаваным статку!

Дык жа скажыце па шчырасці,
Ці не [redacted] маёй літасці,
Каб воўне кудлатай вырасці,
Вы раскашуеце ў сытасці?

Слухаю я з лагодаю
Авечую вашу мелодыю —
Адказваеце з замілаваннем
Мне харавым бляяннем!

І як жа статку не славіць
Заслугі маёй пугі,
Што па-дзяржаўнаму правіць
Авечкамі ўсёй акругі?

Як ад спакус авечкі
Здолелі [redacted] абараніцца:
Злева — граніца грэчкі,
Справа — аўса граніца...

Даюцца авечкам туга
Слоўныя нашы навукі,
Але як лясне пуга,
Будзяць іх гэтыя гукі.

Пугай, што спудзіць здатна,
Ваша авечая паша
Ахоўваецца выдатна:
Паша — дзяржава ваша!

Тут можаве вы без страху
Траўку скубці трапяткую,
Не баючыся замаху
Воўка, што з лесу цікуе...

Вы паслухмяны парадкам,
Якія дае свабода:
Паміж пастухом і статкам
Пануе поўная згода.

# *Якою мовай*

Прэм'еры,
якія сёння над намі
і толькі ўчора прыйшлі ад нарога,
раптам адчуўшы сябе панамі,
цураюцца мовы свайго народа.
Адрокшыся спрэс ад мовы матулі,
ад бацькавай мовы, любові і ласкі
(ці, можа, яе вы зусім і не чулі?),
засвоілі мову
дзяржаўнай указкі.
Самі сабе адразаючы шчодра
Богаву лусту
ад бохана хлеба,
гудзіце з трыбун пра супольную коўдру,
якую цягнуць на сябе не трэба...
Як вы з уладаю праўду вянчаеце,
слугі народа
з пыхаю царскай?
Вы не гаворыце, а вяшчаеце
толькі на мове адной —
цыркулярскай.
То выкрыкі лёгкасці недарагоднай,
то барабаннае пустаслоўе...
Выходзіць, ні роднай, ні міжнароднай,
якое ж двухмоўе,
калі бязмоўе!
Хто вам святое,
што страчана, верне,
ці разумееце вы,
адкажыце,
брата, што кідае ў ворыва зерне,
спеў жаўрука,
што пасецца ў жыце?
Ваш паратунак —

у самалячэнні,
вязні пасадных палацавых клетак.
Вас бы —
на курсы па вывучэнні
мовы матуль,
птушак
і кветак.

* * *

Не раз ён паказваў
трыбуны свой дар,
будзячы ў залі
табунную злоснасць,
самаахвярны,
ударны змагар
за дэмакратыю і галоснасць.
На хвалі
абуджанасці людской,
на хвалі,
што сцены каменныя трэсла,
закалыхаўшы свой неспакой,
узняўся і сам
на пасаднае крэсла...
У храме чыноўнае цішыні
адчуў ён на смак:
усміхнулася доля!
Даўняя ісціна —
з вышыні
дробным здаецца
усё, што на доле.
І друг учарашні
яму ўжо не друг,
у мроях ён статую ўласную лепіць,
шырачы
служак ратоўны круг:
нашто аднадумцы?
Лёкаі — лепей!
Захлістваe веру былую ялей.
А тых, у каго яна цепліцца ў сэрцы,
адпіхвае ўсё далей і далей...
Лёкаі — поруч!
Нашто аднаверцы?
Толькі здагадвайся,

хто і чаму
стрэлы ў яго
завочна пускае,
а пры сустрэчы
лісліва яму
з усмешкай мядовай
руку пацiскае...
Коціцца,
коціцца
долі арба —
загадзя ёй здаля пагалёкай.
Калі гаспадар з галавою раба,
упоравень з ім
уздымаецца лёкай.

* * *

Дзень,
паставіўшы ночы кропку
(цені прывідных сноў, адчальце!),
як запалкамі аб каробку,
чыркнуў праменем
па асфальце.
Ад святла
вокамгненнай успышкі
затрымцела ўсё,
зашасцела.
Ходзяць ходырам
людзі і кніжкі,
лыжка ў рот нырнуць
захацела.
Апякаючы кавай губы,
мітусімся, —
ахвяры спешкі,
і да службы,
нібы да згубы,
мы ляцім, —
каралі і пешкі...
Падключаем сябе,
далучаем
да тралейбуснай лініі вуліцы
і калоцімся ў тлуме
з адчаем
так, што неба над намі
сутуліцца
у натоўпе,
нібы ў патопе,
раствараемся мы нарэшце.
Ногі ў Азіі,
лоб у Еўропе...
Можа, гэта — другое прышэсце?

* * *

Карныя кулі і словы
(Болей сваім, як чужым!)
Цэліў не толькі ў галовы,
Але і ў душы рэжым.
Дзесяцігоддзі ў вары
Трубілі: кіпім нездарма!
Ахвяры,
Ахвяры,
Ахвяры, —
Ім нават ліку няма.
З ахвярнага пакалення
Хтосьці дасюль жыве,
Ды дзірка ў яго сумленні —
Як зацыруеш яе?
Жаданні свае кілзалі,
Не скідвалі ношы з плячэй:
Мы ўсім ахвяруем, казалі,
Толькі б вось дзецям лягчэй!
Дарогай прыйшла дарагою
Працвераржэння пара,
Ад веры ў жыццё другое,
Ад веры сляпой у цара...
Ад веры падстрэленай пер'е
Віхурыць [illegible] нябёс да зямлі.
Як скарб выбуховы, бязвер'е
Мы дзецям перадалі.
Боль іх грызе стоены,
Прагна пакуты ядуць:
Што яны,
Што яны,
Што яны
Наследнікам аддадуць?

* * *

Нагаворана, нагаворана:
Гаварыльня верх узяла,
Мы прымалі за сокала ворана,
З крумкача стваралі арла.
Над чалом, што ўзнята высока,
Лёгка высвеціць арэол:
Вусы ўздыблены — ты ўжо сокал,
Бровы дугамі — ты арол.
Нагаворана, нагаворана,
Нагавор той — як прыгавор.
І прымалі друга за ворага,
І стралялі ў яго ва ўпор.
І гаворым мы да бяссоння:
Дзе знайсці нам жывой вады?
За былое нам сорам сёння,
Хоць не мы гаварылі тады.
Нагаворана, загаворана
Гора вуснамі шаптуна.
І засеяна, што не ўзорана, —
Як марудна расце збажына!
Не забудземся на пражытае:
Калі нелюдзь ты, значыць бог!
Праўды нашай сцяблінку жытнюю
Глыщуць гвалту чартапалох.



Нам памагалі часіны скрушныя
Спасцігнуць ісціны нязбытныя:
Калі сяброўства — непарушнае,
Калі адзінства — маналітнае.
Было ў будынку той эпохі,
Што налягала мнагатонна, —
І нешта ад жалеза трохі,
І штосьці трохі ад бетона.
Усё, што страчана, здабудзем,
Каб гмах наш не хістаўся дрогка,
Як і дамам сягоння, людзям
Перабудоўвацца нялёгка.
У будучыні на прымерцы
Саноўныя, а не святыя:
Як замяніць, скажыце, сэрцы
Каменныя на залатыя?
О, гэта цэхавая спайка,
Якую мы супольна множым!
Што ты не вінт, а я не гайка,
Дагэтуль зразумець не можам.
Як замяніць свой страх на смеласць?
Як хісткасць замяніць на вернасць,
Ператварыць у рух здранцвеласць,
А чэрстваснь душ у міласэрнасць?
Нясу штодзённа, штогадова
Сваю і годнасць, і сумленнасць...
Ты мне даруй, перабудова,
Што я захоўваю нязменнасць.

* * *

Калі ўжо глынеш, не пазбыць у жыцці
Бою гаркоты палыннае.
Нялёгка і поле падчас перайсці,
Калі гэта поле міннае.
Цікуе з зямлі закапаная раць
Сляпога няўмольнага грому,
Каб юным у дваццаць гадоў паміраць
Далёка ад роднага дому.
Уздыбіцца чорнай сцяною плато,
Заскачуць аблокі і зоры,
І рэха апошняга стогну «За што?»
Паўтораць каменныя горы.
Нічога наўкол не чутно, не відно,
Ды посвіст смяротнае кулі
За тысячы вёрст адгукнецца адно
Болем у сэрцы матулі...
А тыя, што вернуцца потым дамоў,
Браты агнявога суполля,
У сне скалануцца не раз ад грамоў
Палыннага міннага поля.
І хатняя ўтульная іх цішыня,
Якой немагчыма паверыць,
Будзе нясцерпна страляць штодня,
Іх долю пякучую мераць.

* * *

Мінулае перабіраю,
Не ведаю, па чым тужыць.
Было — рукой падаць да раю,
Дзе нам усім бясхмарна жыць.
Спасцігли самы верх навукі
Прэм'еры і правадыры,
Каля казны дзяржаўнай рукі
Употай грэлі да пары.
Адны беспакарана кралі,
Ды абмінала іх бяда,
Другіх бязлітасна каралі
І без віны, і без суда.
Нас ціскаціна прытаміла —
Штодзень у чэргах люд шуміць:
У крамах не хапае мыла,
Каб учарашні грэх адмыць...
Як ад застойнае маны
Пазбавім сёння лад наш хворы?
Запозненыя прыгаворы —
Як выстралы пасля вайны.

* * *

Хоць наўздагон не пабягу
За навальніцай веснаю,
Ды пабудзіць яшчэ магу
Кагосьці трубнай песняю.
Ідзём са мной,
Ідзём са мной,
Пра дзіва не гадаючы,
Як плуг,
Што ў шлюбе з баразной, —
У ворыўныя далечы!
Здараецца, што яшчэ на стол
Кладуць рукой ганебнаю
Загорнуты прыгожа тол,
А не буханку хлебную.
І дзіцяня,
Як кацяня,
За кратамі штыкетніку,
Гуляе з кошкамі штодня
На чалавечым сметніку...
Чаго ж ты, як мядзведзь зімой,
Марозам лютым спуджаны,
Дагэтуль спіш,
Таварыш мой,
Калі ўвесь свет пабуджаны?
Ах, я б не стаў цябе чапаць,
Я не рабіў бы шораху...
Ды як жа ўсё-ткі можаш спаць
Ты на падушцы з пораху?

* * *

Як мы жылі, згадалі
Прыцемкамі вячэрнімі.
Як жа нам быць з гадáмі,
Што за плячамі — чэргамі?
Чэргі былі доўгімі,
А мы — да знямення ціхмянымі,
Хоць душы скулілі догамі,
Да ланцуга прыкаванымі.
Цярплівымі крокамі мераў
Сцяжыну пакут да Сезама я
І разам з усімі верыў:
Чарга мая — самая, самая...
Ах, болей «Аўрора» не выстраліць
У пыху вярхоў прастольную:
Мусім мы выстаяць, выстаяць
Нашу чаргу застойную.
Ужо не пакіну, хоць рэжце,
Чаргу, што мяне абшчапіла,
І дастаюся, нарэшце, —
Толькі б жыцця хапіла!
І загадзя мне вядома:
Жонка ўсміхнецца міла,
Сёння вярнуся дадому
З духмяным букецікам мыла.

## *Ода чахлу*

Люляйце свой надзел надзеі.
Не страшны і гарматны ствол,
Калі вы на яго надзелі
З брызенту скроены чахол,
Чахол!
Якое гэта дзіва!

Ім толькі сутнасць апрані
І не пазнаеш кракадзіла,
Яго зубоў, яго брані.
Каб не глядзець адкрыта ў вочы
Усім, хто бачыць на зямлі,
Прыняўшы выгляд патарочы,
Сваё аблічча зачахлі!

І ўжо відушчы — невідушчы,
Абдзелены людскім святлом.
Не толькі твары, а і душы,
І нават думкі — пад чахлом...

Мы неабдымнасць абдымалі
Пад гром параднай гаманы —
З такім натхненнем раздзімалі
Індустрыю чахлоў маны!

Гуляла карная папруга,
Ці ты крумкач, ці ты арол.
Адрозніць ворага ад друга
Нікому не даваў чахол.

Па ўсёй краіне ў наступленне
Ішло ў нябачанай імгле
Брызентавае ачахленне
З вусатым богам на чале...

Бяспраўе каты і ахвяры
З дзяржаўнай ласкі набылі:
У іх брызентавыя твары
Адзнакай роўнасці былі...

Ужо зярнятку сніцца колас,
З зямлі пакліканы святлом,
Я ўжо гукаю ў поўны голас,
Яшчэ прыглушаны чахлом.

11 Зак 491.

* * *

Свята зноў расчынена:
Крыж у неба высячы,
Брама, быццам шчыліна,
Прапускае тысячы.

Мыліцы калекавы,
Кульбіны бабуліны
Храм прымае лекавы
Пад свае цыбуліны.

Як і ўся ваколіца,
Што з Хрыстом яднаецца,
Камсамолка моліцца,
Роспачна жагнаецца.

У душы іголкамі
Воклічы трывожныя:
Награшылі колькі мы
За гады бязбожныя!

Праўдаю прасвечана,
Колькі сцен расколата
І галоваў ссечана —
Ад сярпа і молата...

Пад рукой гвалтоўнаю
Стала сталай стайняю
Зала малітоўная
З набажэнскай тайнаю, —

Каб у час завешчаны
Людзі, Богу верныя,
Цыравалі трэшчыны
Веры невымернае.

Каб бязмоўна енчылі
Да свайго збавіцеля —
Выратаваць кленчылі
Гнаных ад ганіцеля...

Ну, а ты наследавай,
Што ў пакутах спрадзена,
Нітку веры дзедавай,
Нітку праўды прадзеда!

# *Я — каралева*

Так, узышла я
на трон прыгажосці —
без воклічаў справа,
без воплескаў злева...
Пэўна,
зайздросціць мне зараз
хтосьці:
я — каралева,
я — каралева!
Свой стан дзявочы,
свой сан дзявочы
не кідала ў бездань
відовішчнай згубы,
мяне выбіралі
любага вочы,
мяне выбіралі
любага губы.
Мяне выбіралі
любага рукі,
якія ласкай мяне прынеслі
[illegible] маёй дакукі,
з самотнай мукі
у калыханне
адвечнай песні...
Мне не крычалі натоўпы «брава»
ні з заміраннем,
ні з уздыханнем:
на трон вялікасці
я абрана
аднагалосна —
маім каханнем.

* * *

У плуга забралі раптоўна раллю,
Аратаму долю адмералі,
Не ведалі самі, якому рулю
Скарбы зямныя даверылі.
Ад кораня аддзялілі сцябло:
Жывіце, маўляў, паасобку!
І тое, што гэтак буйна ўзышло,
Прымялі, здушылі таропка.
У пальцах жняца глушачы сверб,
Гвалт знакаміты зрабілі,
Забралі ў яго веру і серп
І да гярба прыбілі.
Сейбіт ад нівы пабег стрымгалоў,
Патрапіўшы ў гурт табунны,
Каб зерне высокіх акрыленых слоў
Сеяць з дзяржаўнай трыбуны.
— Долі маёй не дай вам Бог,
Не ведаю, хто я і дзе я...
Калі зямля ўцякае з-пад ног,
На неба адна надзея.
Гатоў я пад гул царкоўных званоў
Да забыцця маліцца,
Кланяцца Богу,
Ах, толькі б ізноў
Згубна не памыліцца!

* * *

У паслушэнстве такаць
Нас навучылі з маленства.
Дык ці ж нам сягоння плакаць,
Даводзіць сябе да шаленства?
Ці ж нам да твару хныкаць,
З прывідным суцяшэннем
На дапамогу клікаць
Бога з набітым кішэнем?
Ці ж нам да твару [redacted] дакукі
Глытаць пакаянныя словы —
Пружыняць яшчэ нашы рукі,
Вараць яшчэ галовы!
З бядоты журба праменіць,
Цяжэюць свінцовыя вейкі —
Слязін драбязу не абменяць
На залатыя капейкі.
Прымерваем новую эру,
Каб да людзей далучыцца.
Хоць мы ўжо не дзеці, веру —
Зможам перавучыцца!
Між дзён, што прабеглі агулам,
У судную гэту нядзелю
Паставіўшы крыж на мінулым,
Перажагнаем надзею.

## *Ленінскае бервяно*

Хто ж усё-ткі назаве работніка
(Бачыцца вялікае здалёк!),
Што з правадыром у дзень суботніка
Бервяно славутае валок?

Над сабою ў думных думах высячы
Ношу, каб адзначыцца спаўна,
З кожным годам выраслі тысячы
Самазваных носьбітаў бярна.

Лес валілі ўдарамі тапорнымі
Катаржнае долі ўладары
І на дол падсечанымі бёрнамі
Падалі і самі без пары.

Колькі іх? Яшчэ нікім не злічана:
Бездань у наступнікаў турбот.
Ды ля вуха кожнага ўзвялічана
Грукае дасюль канвойны бот.

З пачуццём уласнасці агораным
Гніся, але платы не прасі,
Праз усё жыццё з жабрацкім гонарам
Бервяно сваё, бы крыж, нясі...

Нам, сваіх акоў добраахвотнікам,
Раптам сэрца апячэ да слёз:
Ці ж не быў для ўсіх адным суботнікам
Лагерны бярвенаносны лёс?

Хто пад тапаром, а хто пад куляю,
Ды вянец адзін — усім відно.
Хіба ж вам дасюль душу не муляе
Ленінскае здані бервяно?

Мой унук, табе, відаць, ікнулася?
Толькі б зноў бярвенне Ільіча
Неяк незнарок не дакранулася
Да твайго хлапечага пляча.

# На гарэзнай ноце

## Чалавецтва — гэта я

Штодзённа я заглядваю ў сябе
І бачу наваколле чалавецтва,
Якое то прыродай назавецца,
А то царом прыроды...
. . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
Душа збіваецца на строфы.
Радок хінецца да радка.

*Р. Тармола*

У дэфіцыце сёння і люстэрка, —
Пра гэта часта думаю ў журбе.
Таму я сам — вышэйшых скарбаў мерка,
І кожны дзень заглядваю ў сябе.

Што бачу? Чалавечае суполле,
Прыроды неабдымнае абшар,
Дзе рэкі, і бары, і луг, і поле,
І я — прыроды самаўладны цар!
Якія тут для верша знойдзеш словы,
Калі ў табе імперыя твая!
І я, калі жадаеце, гатовы
Сцвярджаць, што чалавецтва — гэта я!
А крытыкам, куды б яны ні гнулі,
Я гавару без шыфра па прамой:
Каб у мяне аднойчы зазірнулі,
Убачылі б глабальны талент мой!
Прадвесцем непазбежнай катастрофы
Раве ва мне сучаснасці рака,
Таму душа збіваецца на строфы,
Таму радок хінецца да радка.

## *То дачасна, то запозна*

> Дарма спяшаў:
> Прыйшоў дачасна,
> І што спярша
> Рабіць — няясна.
> Марудзіў (хам) —
> Прыйшоў запозна.
>
> *Ю. Голуб*

Дзе ты, спеўная муза мая?
Па табе я сумую слёзна:
То прыходжу дачасна я,
То прыходжу занадта позна.
Мне здаецца, дастану вось-вось
Зорку ўдачы, што ззяе высозна,
Але зноў надараецца штосьці:
Думаў, рана, а кажуць, позна.
Быць дакладным усё адно
Я не здолею — не выходзіць.
Маё слова, нібы віно,
То не выстаіць, то перабродзіць.
У мяне завядзёнка свая,
Ад якой мне і ў спёку марозна.
Калі дзеляць вядомасць, дык я
Зноў прыходжу то рана, то позна.
Як да коласа мне дарасці,
Хоць дзялянка мая ўзарана?
Я заўсёды прыходжу ў жыцці
То запозна, а то зарана.

## *Я — птах шчаслівы*

> Шчаслівы птах прывечвае вясну,
> спявае ад світанку і да поўні.
> Ён славіць сад ружовы,
> баразну,
> ну, і само сабой, —
> сваю шпакоўню...
>
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
>
> Мінулы перакрэсліваем час
> і без разбору
> мажам чорнай фарбай...
>
> *Г. Пашкоў*

Я — птах шчаслівы, я люблю вясну,
За свой уласны ўзлёт гатоў ручацца,
І сам я аніколі не засну,
Калі не бачу поруч дамачадца.
Сваю шпакоўню і гародчык свой
Малюю толькі фарбаю ружовай,
А хто супроць, адказвай галавой, —
Са мною шпагі слоўныя скрыжоўвай!
Стракатая вясёлкі прыгажосць —
Падман вачэй! Паверылі няўжо вы,
Што розныя калёры ў свеце ёсць?
Ёсць два калёры — чорны і ружовы!
Ахоўваючы свой ружовы сад,
Заўсёды я сухім трымаю порах.
Хто за ружовы колер — той мне брат,
А хто за іншы — класавы мой вораг!

## *Нехта мною водзіць*

Здаецца, гэта я, а ўжо не я,
Здаецца часам, нехта мною водзіць.

*Н. Гальпяровіч*

Штодня пішу старанней удвая,
Ды сам не разумею, што выходзіць.
Здаецца, гэта — я, а ўжо не я,
Здаецца часам, нехта мною водзіць.
Раз я не — я, дык хто я ўсё ж такі?
Не, не Бураўкін і не Барадулін!
Вас гэтак многа, слова мастакі, —
Чыёй жа творчай ласкай я атулен?
Каб выверыць свой неспазнаны дар,
Я пільна цэлю позірк паляўнічы
З надзеяй, што знайду і ўласны твар,
Прымерваючы іншыя аблічча.
З усіх вядомых прыклад я бяру,
Але пяро чамусь няроўна ходзіць.
І ўсё-ткі аніяк не разбяру,
Чыя рука, нарэшце, мною водзіць?

# *Люблю*

> Зязюляй шэрай закуваю,
> збягу ў дрымучы лес густы
> і там уголас заспяваю
> аб тым, як моцна любіш ты.
>
> *Р. Баравікова*

Сціскаў мне сэрца боль, як цэгла
Высотных гарадскіх муроў,
І вось я ў лес дрымучы збегла
Да птушак — да маіх сяброў.
Яны натхнёна пець умеюць —
Таксама, як і я пяю,
Таму, вядома, разумеюць
Збалелую душу маю.
І я — ні многа і ні мала —
Так, што ўсхадзіўся бор густы,
Зязюляй шэрай закувала
Аб тым, як моцна любіш ты
Адлёг пакут нясцерпны камень.
На крылах песенных лячу:
То я гігікаю, бы каня,
То салаўіхаю свішчу!
Мне век бы з птушкамі лучыцца.
Ды ледзь мой спеўны голас змоўк,
Мне стала падвываць ваўчыца,
Якую кінуў шэры воўк...
Ах, вось дык злыбяда якая!
Ну, я такога не сцярплю —
Я з лесу ў горад уцякаю
сказаць аб тым, як я люблю!

## *Важкія прычыны*

> А я стаю на бальшаку
> На скрыжаванні між гадамі,
> Былінкай тонкай на вяку.
> І вечнасць кратаю рукамі.
>
> *В. Варба*

Кілзаючы свае гады,
Што паскараюць бег гарачы.
Мацней сціскаю павады
Жыццёвай зменлівай удачы.
Не страшны мне ніякі ўзрост,
Бо я жыву паміж радкамі.
Да мэты ідучы наўпрост,
Я вечнасць кратаю рукамі...
Вядома, прытуліцца я
Магла б былінкаю да дуба,
Але ж мне толькі вечнасць люба,
Належыць ёй душа мая!
Хоць часам мне сваё «ку-ку!»
Зайздросніца зязюля кіне,
А я былінай на вяку
Стаю адна, нібы ў пустыні.
Прынада ў вечнасці свая!
Вы ўжо даруйце мне, мужчыны,
Што вас не абнімаю я:
На гэта важкія прычыны...

# *Без пяшчоты*

Пяшчота ва мне паспела.
Каму мне яе аддаць?
. . . . . . . . . . . . . . . . . .
І пракаўтну пяшчоту,
Як абарваную ноту.

*Н. Тулупава*

Даймала мяне турбота,
Як падрастала я:
Калі ж даспее пяшчота —
Надзея мая?

Надзею сваю, дабрадзею,
Я выспелю, адстаю...
Нябачны, дзе брыдзе ён,
Што сніць пяшчоту маю?

Пакутавала ў паняверцы
Я ад відна да цямна.
І раптам ёкнула ў сэрцы:
Вядома, гэта — яна!

Ад шчасця я ўголас запела —
Верыце або не?
Нарэшце, даспела, паспела
Пяшчота ва мне!

Ды быць шчаслівай — о гора! —
Не суджана мне, відаць.
Пытанне бярэ за горла:
Каму мне пяшчоту аддаць?

Дачушцы малой? Навошта
Такая цацка ёй?
У лялькі болей кошту,
Чым у пяшчоце маёй.

Пяшчота гняла і гнула
Постаць маю — і тады
Пяшчоту я пракаўтнула,
Як ноту сваёй бяды.

Бывайце, былыя турботы:
Крок мой лягчэй і лягчэй...
Бегаю без пяшчоты —
Быццам гара з плячэй!

# *Мой настаўнік*

> Гулкім рытмам гарачага цэху
> Я напоўню свае радкі.
> . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .
> Мой настаўнік —
> Рабочы клас.
>
> *У. Палковіч*

Я рабочаму класу на ўцеху
Згодна [illegible] творчаю воляй рукі
Гулкім рытмам гарачага цэху
Напаўняю свае радкі.
Няхай іншыя цешацца ласкаю,
Напінаюць пачуццяў ніць,
А я рыфмай, як молатам, ляскаю,
Вобраз мой, як кувалда, звініць.
Я не вохкаю і не ахаю,
Парыванні хаваю свае.
Хай страфа мая дрогкай бляхаю
Пад рыпучым пяром пяе!
Ці ж лавіць мне блакітную птушку,
Што камусь не дае спачыць?
Я са слова здымаю стружку,
Каб да бляску яго адтачыць!
І магу, я паверце, расплавіць
Сэрцы вершам сваім не раз:
Мне адзнаку «жалезна» ставіць
Мой настаўнік —
Рабочы клас.

# ЗМЕСТ

## *Таемны покліч пекнаты*



## *Дай мне песню спавядальную*

*На гарэзнай ноце*

**Макаль П.**

М15 Твар і душа: Кн. паэзіі. — Мн.: Маст. літ., 1995. — 174 с.

ISBN 5-340-01356-1.

Новая кніжка вершаў лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі Петруся Макаля — плод напружанага роздуму паэта пра тое, што адбываецца ў нашым жыцці, пра драматычныя перамены ў свядомасці сучаснікаў. Лірызм і іронія, добрая ўсмешка і гнеўны сарказм — такая гама фарбаў, пры дапамозе якіх аўтар імкнецца перадаць перажытае ім і яго суайчыннікамі. Шмат хвалюючых радкоў прысвечана жанчыне, каханню.

М $\frac{4702010202-004}{М302(03)-95}$ 49—95

ББК 84(4Беи)6

Літаратурна-мастацкае выданне

*Макаль Пятрусь Міхайлавіч*

*Твар і душа*

Кніга паэзіі

Рэдактар *Р. М. Яўсееў*
Мастак *М. Я. Шкурпіт*
Мастацкі рэдактар *А. М. Малышава*
Тэхнічны рэдактар *І. І. Дуброўская*
Карэктар *А. Т. Глушчанка*

Здадзена ў набор 27.04.94. Падп. да друку 03.11.94. Фармат $70 \times 90^{1}/_{32}$. Папера кн.-часоп. Гарнітура школьная. Афсетны друк. Ум. друк. арк. 6,43. Ум. фарб.-адб. 6,59. Ул.-выд. арк. 5,84. Тыраж 1500 экз. Зак. 491.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Міністэрства культуры і друку Рэспублікі Беларусь. Ліцэнзія ЛВ № 3. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Друкарня «Перамога». 222310, Маладзечна, вул. Таўлая, 11.